Газэта заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

31 жніўня 1998 г.

№16 (113)

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Славамір Адамовіч

## НЯ ХОЧАЦЦА

*Ня хочацца быць нікім,*
*ня хочацца быць бедным,*
*чытаць правінцыйны «ЛіМ»,*
*праходзіць па справе падсьледным.*

*Ня хочацца быць без вады,*
*бяз мыла, запалак, солі,*
*бяз мовы, кавалка яды,*
*здаровай жанчыны і волі.*

Альхоўка, 19 жніўня 1998 году



## «ЯК Я ПРАВЁЎ ЛЕТА»

Некалі ў далёкія ўжо савецкія часы, прыйшоўшы зь летніх вакацыяў у школу, усе савецкія дзеці пісалі сачыненьне на тэму «Як я правёў лета». Сюжэтаў на шостай частцы зямное сушы было ўсяго чатыры. Першы – у бабулі ў вёсцы, другі – у піянэрскім лягеры, трэці – а я нікуды ня езьдзіў і чацьверты –куды-небудзь езьдзіў з бацькамі – у санаторый або на мора. Нейкага пятага больш-менш тыповага сюжэту проста не магло быць.

Тыя савецкія завядзёнкі прыгадаліся сёньня, у апошні дзень лета. Сёньня, напэўна, колькасьць сюжэтаў значна пашырылася. Дзеці менш сталі езьдзіць з бацькамі на мора, паменшала й піянэрскіх лягераў. Затое маса дзіцячага народу па чарнобыльскіх праграмах выяжджае і вылятае хто ў Італію, хто ў Штаты, дзе іх расьсяляюць па сем'ях. Бязьмерна пашырыўся і відасьмяніўся сюжэт з адпачынкам на дачы. Гэта, вядома, ня тыя дачы, дзе адпачывала савецкая эліта, а адваяваныя ў прыроды глінішчы, дзе на шасьці сотках адпачынак дзіцяці найчасьцей ператвараецца ў занудзтва: ракі або лесу няма, паўсюль драты і далёка ад хаты не адпускаюць, бо ў гэтых аднапавярховых мэгаполісах згубіцца не складае праблемы.

Зьмяніўся таксама і адпачынак дарослых. І яны ўжо «праводзяць лета» па-іншаму. Найчасьцей клопат папросту не дазваляе расслабіцца і адпачываць.

У зьвязку з гэтым згадваецца й яшчэ адна тэма колішніх савецкіх абмеркаваньняў – кнігі, прачытаныя за лета. З такім апытаньнем карэспандэнт «НН» зьвярнуўся да мінакоў на менскіх вуліцах.

*Матэрыял на старонцы 12*

# Незаўважаная АЭС

### *Перад злачынствам*

**Працягваючы тэму «Як я правёў лета» і што за гэтае лета прачытаў, я задумаўся над пытаньнем — а што ўласна за гэтае лета адбылося, як правяла лета ўся наша краіна? Першымі згадаліся эпапея з Драздамі і суд над «Нашай Нівай» і над беларускай мовай, пасьля... Каб што-небудзь сапраўды запамінальнае, дык і не згадаеш. Праўда, ёсьць і падзеі іншага кшталту, амаль незаўважаныя прэсай, але безумоўна разьлічаныя на радыкальныя зьмены ў будучыні.**

Ня ведаю, ці сапраўды дарога ў пекла выкладзеная з добрых намераў. Але тое, што добрыя намеры й прыгожыя праекты часцяком стаюць поруч зь цёмнымі жаданьнямі й нараджаюцца ў прадчуваньнях злачынстваў — гэта праўда. Радыён Раскольнікаў, герой знакамітага «Злачынства і пакараньня», ідучы зь сякераю пад пахай забіваць старую, разважаў пра фантаны, пра тое, наколькі яны асьвяжаюць і высакародзяць гарадзкія пляцы. Пасьля палёт ягоных думак сягаў далей — ён ужо маракаваў, як на новы капыл перапляноўваць паркі Пецярбургу.

Гэтым летам, дзякуючы ледзь не штодзённым даждажам, пра патрэбу ў гарадзкіх фантанах, прынамсі ў Беларусі, ніхто ня згадваў. Аднак гэта зусім не азначае, што беларускія будаўнікі ні пра што ня думалі. Да 2010 году беларуская энэргетыка запатрабуе замены сваіх магутнасьцяў на 90%. І гэта пры тым, што звыш 30% электрычнасьці ўжо сёньня краіна закупляе, пераважна зь Літвы. Калі дадаць, што беларускія электрастанцыі працуюць на 95% за кошт расейскае сыравіны, дык клопат дзяржавы пра будучыню сваіх грамадзянаў цалкам зразумелы. Дзе ж разумнае й прыгожае выйсьце? На апошнім летнім паседжаньні дзяржаўная камісія, створаная Лукашэнкам для ацэнкі мэтазгоднасьці будаўніцтва АЭС у Беларусі, вырашыла працягнуць сваю дзейнасьць да канца году.

Станцыю мяркуюць паставіць пад Менскам, у мястэчку Рудзенск.

Тое, што камісія засядала менавіта ў разгар адпачынковага сэзону, ня дзіва. Сыцілыя пратэсты, якія прагучалі ў жніўні падчас міжнароднае акцыі «За безьядзерную Беларусь», папросту патанулі ў летніх клопатах бясклапотнае краіны.

Між тым, нават у часы Сьлюнькова, слыннага сваімі будаўнічымі ініцыятывамі, ідэя атамнай энэргетыкі не знаходзіла ў БССР радаснага энтузіязму. Зь некалькіх прычынаў. Папершае, усіх бянтэжыла блізкасьць запраектаванае АЭС да Менску, дзе й сёньня бракуе

*Працяг на старонцы 5*



# АБЛІЧЧА ВОРАГА

**Мы не прэтэндуем на ролю арбітра ў гэтай страшнай спрэчцы, праведнікаў і вінаватых у якой ня можа быць. Адныя хочуць прачытаць гэтую кнігу. Другія хочуць, каб сама памяць пра яе зьнікла назаўсёды. Але й тыя, і іншыя наўрад ці ведаюць, пра што ідзе гаворка.**

**Можна ці нельга выкарыстоўваць у мастацкім творы сюжэты сьвятарных кніг — у розных рэлігіях пытаньне спрэчнае. Асуджаючы Скарсэзэ за вытлумачэньне біблейскай легенды ў «Апошняй спакусе Хрыста», каталіцкая царква не прысудзіла рэжысэра да якога-кольвек пакараньня. Называючы блюзьнерскім тэкст кнігі «Майстар і Маргарыта», праваслаўная царква ніколі не абвяшчала анафэмы Булгакаву. І такіх прыкладаў у гісторыі чалавечай цывілізацыі шмат. Тым ня менш, навязваць свае нормы іншай культуры мы ня маем права.**

**Рэч у іншым. За тыя амаль дзесяць гадоў, што існуе кніга Рушдзі, самым галоўным у яе ўспрыйманьні быў страх. Звычайны прымітыўны страх сьмерці.**

**Мы хочам дапамагчы пераступіць страх — і першым, і другім.**



Кажуць, што летась Нобэлеўскую прэмію ў галіне літаратуры павінен быў атрымаць ангельскі пісьменьнік Салман Рушдзі. Ніколькі не пыніжаючы выбару Нобэлеўскага камітэту і без сумневу ў сусьветнай значнасьці твораў рэальнага лаўрэата, многія літаратуразнаўцы ўсё ж сьцьвярджаюць, што на камітэт быў зроблены ціск.

*«Я ня меў рацыі... Я ня веру ў Бога, і мне ня трэба было прыкідвацца, што веру».*

Салман Рушдзі

Ніяк не згаданае ў Каране, але абвешчанае Сунай (сьвятое паданьне ісламу пра ўчынкі і выказваньні прарока Махамэда) і замацаванае ў Шарыяце (звод нормаў мусульманскага права, маралі і рытуалаў) адсячэньне крайняе плоці сямідзённым немаўлятам і юнакам да пятнаццаці гадоў, якія яшчэ ня выйшлі з-пад бацькоўскае апекі — толькі вонкавае пацьверджаньне таго, што верных Алаху на грэшнай зямлі стала болей. Для тых жа, хто ня ўклаўся ў гэтыя ўзроставыя рамкі і прыйшоў да Стваральніка пазьней і самастойна, абразаньне становіцца ўласным клопатам і часам каштуе немалых грошай.

*Працяг на старонцы 8*

# Ад рэдакцыі

**Гэтымі днямі Вярхоўны гаспадарчы суд РБ рассылае моўазнаўцам-экспэртам матэрыялы судовае справы аб мове «Нашае Нівы». Такім чынам, цяжба паміж клясычным беларускім правапісам і сталінскім законам 33-га году, якога бароніць лукашэнкаў Дзяржкамдрук, на нейкі час пераходзіць у рукі спэцыялістаў. Адныя зь іх будуць адстойваць інтарэсы антыбеларускіх па сутнасьці сваёй уладаў, другія — права беларускае мовы на вольнае разьвіцьцё. Аднак апошняе рашэньне вынесе згаданы гаспадарчы суд. Фармальным вынікам працэсу стане працяг працэдуры закрыцьця «НН», якую распачаў Дзяржкамдрук, або спыненьне гэтае працэдуры, на чым настойваем мы. Сутнасным вынікам будзе падзеньне грамадзкага статусу беларускае мовы ды ўзмацненьне й без таго нахабнае русіфікацыі, або наадварот — падвышэньне прэстыжу нашае мовы. Яшчэ адно важнае наступства, якое мы ўжо маем незалежна ад рашэньня суда, — гэта ажыўленьне ў закансэрваваным ад сталінскіх часоў асяродку беларускіх мовазнаўцаў. Кансэрвацыя была адной з падспудных мэтаў пастановы 33-га году — калі дзяржаўныя навукоўцы адмаўляюць жывую плынь моўнага разьвіцьця, усё, што ня ўпісваецца ў некалі прадпісаныя моўныя рэгулы. Мовазнаўчая цэнзура мусіла б яшчэ болей зьмярцьвіць мову, чаго й дамагаліся народныя камісары.**

**Аднак, акрамя Вышэйшага гаспадарчага суда і Дзяржкамдруку (дарэчы, рускамоўных), а таксама спэцыялістаў-мовазнаўцаў, існуе яшчэ народ, жывыя карыстальнікі клясычнае беларускае мовы, чытачы «Нашае Нівы». Ужо ў першыя дні пасьля выхаду мінулага нумару «НН» з заклікам падтрымаць мову і газэту мы атрымалі каля сотні чытачоўскіх лістоў. Нам адкрыўся цэлы мацярык сёньняшняе жывое беларушчыны — мацярык самых розных думак і пачуцьцяў. Безумоўна, гэтыя лісты — самы моцны наш аргумэнт, бо думкі й пачуцьці ня могуць падлягаць суду, перасьледу або забароне.**

**Рэдакцыя шчыра ўдзячная ўсім, хто адгукнуўся й яшчэ адгукнецца на наш заклік. Нашая супольнасьць — газэты й ейнае публікі — набывае не абстрактны, а зусім рэальны выгляд працэсуальнага доказу.**

**Гэта — мы з нашай мовай. Судзіце нас, забараняйце, але ў выніку мы нікуды ня дзенемся са сваёй газэтай і сваім клясычным правапісам. Бо гэта ўсё адно, што судзіць за летуценьні, за мары або за колер скуры.**

# Лісты падтрымкі

Дзень добры, паважаныя нашаніўцы!

Лепей за ўсё было б проста падзякаваць вам за справу, якую вы робіце, але такі час – трэба пісаць у падтрымку.

Шлях мой да «Нашай Нівы» даволі складаны. Ад чатырнаццацігадовага расейскага хлопчыка, якога ледзь не пакінулі на другі год з-за нежаданьня вывучаць беларускую мову, да першага верша, надрукаванага на старонках вашай газэты. Ня вельмі хочацца ўжываць тут слова «мэтамарфоза». Скажу лепей так – усяму на сьвеце свой пэўны тэрмін.

На вашым тытуле напісана – «Першая беларуская газэта». Сапраўды, першая і сапраўды, беларуская. Трэба дадаць да таго – яшчэ й жывая.

Гэта так добра, што вы разумееце, што культуралёгія (асабліва беларуская культуралёгія) – справа ня толькі мінулага, а найперш сучаснага і, галоўнае, будучага.

Мяне асабіста ўразіла (і гэта ў так званых «сучасных абставінах») пастаноўка вамі пытаньня аб беларускай культурнай экспансіі. Вось так, адзін толькі нетрадыцыйны погляд на рэчаіснасьць – і стан паразы адыходзіць.

У вас свой, асабісты чытач. Бо «НН» не купляюць між іншым, з рынку бегучы на працу, яе чакаюць. І як бы там ні было, будуць чакаць. Але спадзяюся, усё будзе добра. Дабра вам і здароўя.

**Дзьмітры Таруліс, Менск**

P. S. Што тычыцца «тарашкевіцы», то я проста намагаюся ёю карыстацца. І гэта МАЁ ПРАВА.

Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «Нашай Нівы»!

Пішу, бо ведаю, што маю любімую газэту хочуць змусіць перайсьці на «обшчапанятный беларускій язык». Даражэнькія мае, ня дайцеся. Паглядзіце, што сталася са «Свабодай». Я чытаю вас менавіта таму, што вы пішаце на сапраўднай, не скалечанай бальшавікамі мове. Гэтая мова – мая. Я на ёй думаю і малюся, прызнаюся ў каханьні і размаўляю зь сябрамі пры кухлі піва. Калі ласка, не зьнікайце. Скажыце, што рабіць, куды прыходзіць, каб вас падтрымаць. Я буду вас чытаць, бо вы для мяне важныя.

Бывайце, ваш верны сябра і чытач

**Кірыла Невяроўскі, Менск**

Шаноўнае спадарства,

пішу вам гэты кароценькі ліст, каб сказаць, што беларуская мова, чысьціню і ўзьнёсласьць якой захоўвае «Наша Ніва» –гэта МАЯ мова, шчырае імкненьне аўтараў «Нашай Нівы» абудзіць чалавечае ў чалавеку, дапамагчы яму ўзьняцца над будзённасьцю дый пазбавіцца кайданоў ідэалягічных догмаў – гэта і МАЁ імкненьне, рашучасьць людзей, якія гуртуюцца вакол першае беларускае газэты, пасьлядоўна адстойваць правы Чалавека, правы Асобы – гэта МАЯ рашучасьць, краіна, сапраўднай і адзінай мовай якой размаўляе «Наша Ніва», – гэта МАЯ Радзіма – Беларусь.

Раней мяне наўрад ці можна было залічыць да кола сьведамых прыхільнікаў клясычнага беларускага правапісу, але я такім цьвёрдым прыхільнікам станаўлюся, калі сутыкаюся з ганебнымі, а часам проста вартымі жалю спробамі духоўна спустошаных людзей забараніць тое, што забараніць нельга, тое, што жыве па-за межамі дзяржаўнага, па-за межамі абыякавасьці, аднолькавасьці й страху, тое, што жыве ў СЭРЦЫ чалавека.

Як грамадзянін Беларусі, я патрабую ад уладаў, адказных за дзеяньні ў дачыненьні да «Нашае Нівы», спыніць палітычны перасьлед маёй газэты.

Жыве Беларусь!

**Андрэй Дапкюнас, Менск**

… І вы яшчэ пытаецеся, ці патрэбная мне такая газэта й такая мова? Дык я вам адкажу: мне патрэбная толькі газэта «Наша Ніва» і толькі «зь мяккімі знакамі»! Так і перадайце гэным спадарам-таварышчам! Да таго ж мне яшчэ патрэбныя касэты й кнігі, якія я мяркую набыць у вас. Можаце і гэта ім сказаць. І ўвогуле, хопіць гуляць па іхных правілах. Калі вашая газэта незалежная, дык чаму яна можа быць забароненая нейкім гаспадарчым судом? Пашліце іх усіх у балота. Няхай не чапляюцца са сваімі ідыёцкімі законамі. Ці мала яшчэ чаго яны навыдумляюць?

На заканчэньне хачу сказаць наступнае: разам мы пераадолеем усе перашкоды.

Да спатканьня!

**Антон Таўгень, студэнт, Валожын**

Шаноўная рэдакцыя!

Далучаюся да ўсіх, хто падтрымлівае ды чытае газэту «Наша Ніва». Акрамя таго, што яна зьяўляецца ледзьве не адзінай газэтай, якая гуртуе вакол сябе аднадумцаў (усе, хто чытае «Нашу Ніву», упэўнены – аднадумцы) з мэнтальнасьцю, абсалютна непадобнай да мэнтальнасьці большае часткі насельніцтва Беларусі, з мэнтальнасьцю людзей з разуменьнем Волі, жаданьнем яе, рэдакцыя рыхтуе матэрыялы па найноўшай гісторыі Беларусі, якія дагэтуль зьяўляюцца закрытымі для грамадзтва, матэрыялы па культуры Беларусі ды сьвету. Чытаючы «Нашу Ніву», спазнаеш душу Беларусі, нашай Беларусі. Можна сказаць, што «Наша Ніва» з атачэньнем – гэта дзяржава ў дзяржаве. Нават са сваёй мовай, мовай натуральнай, лягічна выпрацаванай народам. І няхай пакуль што насельніцтва яе ня надта вялікае, але будучыня за «Нашай Нівай». А безь яе ня будзе Беларусі. Таму – «Рукі прэч ад «Нашай Нівы»!» Немагчыма, каб адбылося закрыцьцё нашае газэты.

А што да мовы, дык:

Па-першае, менавіта мова «Нашай Нівы» ёсьць мовай Беларускага Адраджэньня (ад пачатку стагодзьдзя дагэтуль).

Па-другое, мова «афіцыяльна прызнаная» была выпрацаваная дзеля «збліжэньня з рускай» і бярэ свае пачаткі з гвалту над мовай, за якую цяпер улады ймкнуцца закрыць «Нашу Ніву».

Па-трэцяе, існуюць міжнародныя дакумэнты па правах чалавека, і Беларусь іх падпісала.

На гэтых падставах папярэджаньне Дзяржкамдруку за карыстаньне тарашкевіцай – гэта проста нахабны ўціск на іншадумцаў, чарговыя спробы выкараніць у Беларусі Беларусь.

Жадаю вам перамогі.

**Гайдалёнак Вадзім, Менск**

Высокашаноўны спадар Рэдактар,

На Вашае пытаньне: «Ці патрэбна мне ТАКАЯ «НН» і ТАКІ правапіс» адкажу адназначна і катэгарычна:

– ТОЛЬКІ такая і ТОЛЬКІ з такім правапісам.

Невідушчаму зразумела, што не графічнае пазначэньне мяккасьці шкодзіць рэжыму, які, да слова, беларускай мовай не карыстаецца. Яму шкодзіць і замінае само існаваньне беларускай мовы, вось чаму ён і б'е па самай адчувальнай частцы беларушчыны.

Каляніяльнаму рэжыму надзвычай важна маргіналізаваць беларускую мову, дзеля гэтага ён не спыняецца і ня спыніцца ні перад чым.

Я думаю, мы, нацыяналісты, мусім ставіцца да каляніяльнага рэжыму нармалёва, г. зн. як да акупацыйнага і чужога. Мы павінны рабіць нашу беларускую справу, не зважаючы на акупацыю, якой рана ці позна прыйдзе хана.

Жыве Беларусь!

**Мікола Бусел, Дуброва**

Шаноўная рэдакцыя!

Чытаю «Нашу Ніву» зь яе ўзнаўленьня. Вельмі ўдзячны вам за газэту. Падтрымліваю беларускую мову. Як і многія з нас –расейскамоўны беларус, але з часу пераезду ў Менск у 1992 годзе, чытаю і размаўляю як магу на беларускай мове.

Далучаюся да той падтрымкі, якую выказваюць чытачы ў сваіх лістах. Жыве беларуская мова, Пагоня і бел-чырвона-белы сьцяг!

**Алесь Раманоўскі, 50 гадоў, інжынэр-электрык, былы жыхар г.Харкава**

Дарагая рэдакцыя!

Можа, мой ліст дапаможа абараніць «Нашу Ніву».

Чую мамін голас: «Якая прыгожая была беларуская мова да вайны, а зараз...» Усё зразумела. Зрусіфікавалі мову, як і правапіс, і вымаўленьне. Калі чытаеш «Нашу Ніву», разумееш, што мела на ўвазе мая старэнькая маці. Мяккі знак у напісаньні робіць яе гучаньне таксама мяккім. А ўладам трэба, каб народ наш лічыў беларускую мову грубай і адмовіўся ад яе. Таму і зьявілася гэтае «папярэджаньне». Я, як чытач, задаволеная правапісам газэты, а мяне хочуць пазбавіць магчымасьці чытаць яе на сапраўднай нармальнай беларускай мове.

Мова – гэта сымбаль нацыі. Значыць, робіцца замах на саму нацыю. «Наша Ніва» павінна выходзіць і друкавацца на нармальнай беларускай мове. Так жадаюць усе, хто хоча застацца сапраўдным беларусам і каму неабыякавы лёс народу і Радзімы. Суд над мовай павінен быць на карысьць Мове, а ня ўладам.

**Кананові̇ч Вольга, Менск**

Шаноўная рэдакцыя!

Сваю працу Маладзёвая асацыяцыя «Полацкі праект» распачала сёлета, і згоды наконт правапісу сярод нашых сяброў напачатку не было. Але суд над «Нашай Нівай» стаўся апошнім аргумэнтам для памяркоўных ды вагаючыхся – пісаць наркомаўкай цяперака проста непрыстойна. Зараз мы дасканалім свае веды правапісу Тарашкевіча акурат па справаздачах «Нашае Нівы» з суда над Мовай. І плён нашага навучаньня ўжо ёсьць. Мы падрыхтавалі да друку тэксты двух першых выданьняў нашае Асацыяцыі – паводле нормаў дарэформавага правапісу. Лёс апошняга – гэта і наш асабісты лёс. А ў сваім лёсе мы пэўныя – клясычны беларускі правапіс будзе ня толькі жыць, але і пашыраць абсягі собскага бытаваньня.

**Сяргей Шыдлоўскі, выканаўчы дырэктар МГА «Polacki prajekt», Наваполацак**

Вышэйшаму гаспадарчаму суду РБ

Уласна мне неабходная газэта «Наша Ніва» зь нескажоным беларускім правапісам. Абсурд, але найцяжэй маральна жыць на Беларусі беларусу (асобу бяз мовы я не лічу беларусам).

**Мазавецкая Т., Менск**

Вітаю, паважаныя калегі!

Калі «Наша Ніва» сапраўды легенда беларускай прэсы ў моўным пытаньні за апошнія восем год і за гэта «нажыла» сабе судовы працэс, то наша гадавалая «Газета Слонімская», дзе мовам «прасторна» і з правапісам усё па-савецку, таксама ўжо мае судовы іск ад аднаго з сваіх «герояў». Для ІХ справа ня ў мове, і гэта зразумела для кожнага больш-менш абазнанага ў сёньняшнім нашым жыцьці чалавека.

«НН» газэта ўнікальная сярод усіх недзяржаўных СМІ. І яе твар – ня толькі тарашкевіца; па сутнасьці, па духу свайму – гэта адзінае беларускае выданьне (газэта!), зарыентаванае ў эўрапейскі кантэкст без «абавязковых» адхіленьняў. Ну, а працэсы з «последующим закрытием» і ў пачатку стагодзьдзя, і ў канцы – для НАС сымбалічна. Застаецца змагацца. Жадаю Нам веры ў Перамогу.

**Мікола Кананові̇ч, Слонім**

Шаноўная «Наша Ніва»!

Зь вялікім задавальненьнем чытаю кожны Ваш новы нумар. Гэта адзіная сапраўды Беларуская прагрэсіўная газэта. Я вучуся ў Пецярбургу і, калі выпадае магчымасьць, то чытаю «Нашу Ніву» ў Internet. Таксама робяць шмат піцерскіх беларусаў. Мы самі выдаем пры адным зь піцерскіх касьцёлаў рэлігійна-культурніцкую газэту «Krynica» і карыстаемся выключна тарашкевіцай, акрамя таго мы асобныя артыкулы пішам лацінкаю. Калі вы маеце жаданьне, то пішыце нам на e-mail: licvin@yahoo.com. Жадаю мужнасьці ў барацьбе за беларушчыну! Жыве Беларусь!

**Яраслаў Крывы, Санкт-Пецярбург**

Добры дзень, шаноўная «Наша Ніва»!

Посьпехаў табе ў змаганьні за беларускі правапіс. Веру, што сёньняшнія ўлады трохі перастараліся, указваючы газэце, як трэба пісаць, і ў выніку яны самі сабе нашкодзяць.

Вось, напрыклад, колькі дзён таму ў Давыд-Гарадку да прыезду абласнога начальства рыхтаваліся, і дзеля гэтага ўсе ліхтары ўначы гарэлі. А потым тры дні радыё не працавала – кажуць, з-

# ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ «НЕ ТАКІХ»

*за таго, што трансфарматар сапсаваўся з-за перагрузкі. Хіба БНФ мог бы так перарваць сувязь ППРБ з горача любімым ім народам?*

*Палітычная пераарыентацыя з захаду на ўсход таксама цікава адбілася ў жыцьці гарадчукоў. Ёсьць у Давыд-Гарадку вуліца імя Клары Цэткін. Там знаходзіцца гарадзкая бібілятэка. На ёй вісіць чысьценькая шыльдачка: «Ул. К. Цеткина». Вось што значыць нічога не шкадаваць дзеля старэйшага брата – тыя ж людзі, што старанна пафарбавалі статую Леніна ў залацісты колер, ператварылі нямецкую камуністку ў расейскага мужыка.*

**Сяргей Карбоўскі, Давыд-Гарадок**

*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя «НН»!*

*Пішу вам з нагоды ганебнага працэсу, што праводзяць улады ў дачыненьні да газэты.*

*Па даручэньні сваёй сям'і, сяброў і ад уласнага імя паведамляю, што нас, чытачоў «НН», вельмі задавальняе той правапіс, які выкарыстоўвае «НН». І больш за тое, тарашкевіца на наш погляд больш адпавядае сапраўднай беларускай мове, чым наркомаўка. І паколькі «НН» амаль адзінае ў Беларусі выданьне, якое друкуецца тарашкевіцай, то такія паводзіны ўладаў ня сьведчаць пра іхны клопат пра разьвіцьцё мовы краіны, у якой яны жывуць і на чыіх харчах тлусьцеюць, а наадварот. Акрамя таго, «НН» – не дзяржаўная газэта. Гэтая газэта для нас, а не для іх, і таму ня іхная справа, якой мовай друкуецца газэта, якую я чытаю. Мне падабаецца, і я купляю або выпісваю. Бо калі дакладна трымацца іхнае лёгікі, то і дыхаць без дазволу нельга. Гэтым лістом я падтрымліваю газэту «Наша Ніва» і яе правапіс і дазваляю выкарыстоўваць ліст як сьведчаньне ў судзе.*

*Жыве Беларусь!*

**Валеры Савіч, Пінск**

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Газэта сталася сымбалем свабоды й сапраўднай беларускай культуры. «Наша Ніва» вельмі паўплывала на фармаваньне майго як агульнага, так і нацыянальнага сьветапогляду. Пасьля знаёмства з «Нашай Нівай» у 1992 годзе я адразу стаў прыхільнікам газэты і прачытаў за гэтыя гады амаль усё, што ў ёй друкавалася. «Наша Ніва» для мяне зьяўляецца знакам таго, што ўласнабеларускі погляд на жыцьцё калі-небудзь запануе ў гэтай краіне. Яшчэ хачу адзначыць, што газэта з кожным годам робіцца ўсё больш прафэсійна, і за такую газэту ня сорамна перад краінамі, дзе здавён існуе свабода друкаванага слова. Веру, што надыдзе той час, калі ў Беларусі будзе шмат падобных выданьняў, але «Наша Ніва» будзе самым папулярным сярод іх.*

*Зычу рэдакцыі посьпехаў у адстойваньні свайго пункту погляду.*

**Валер Кісель, Горадня**

*Дабрыдзень, «Наша Ніва»!*

*Тыя захады, якія робіць дзяржаўная ўстанова, каб зачыніць вашу й нашу газэту, вымусілі напісаць гэты ліст падтрымкі. Падтрымкі вашага супраціўленьня таталітарызму, азлобленасьці й абсурду. Уласна, таталітарызм і ёсьць абсурдам. Ненатуральныя ўвогуле для чалавечай прыроды дзеяньні ўлады выклікаюць пратэст у здаровага чалавека. Цяпер пра «агульнапрынятыя нормы мовы». У савецкай дзяржаве агульнапрынятым было літаральна ўсё: ад законаў да стылю вопраткі. Сёньня ў гэтыя рамкі ўціскаюць мову. Дакладней, не ўціскаюць, а ставяць туды, як эталён, рэфармаваны (чытай: скажоны) ў 1933 г. правапіс.*

*Любы таталітарызм асуджаны ў Эўропе на сьмерць. Дарэчы тут будзе ўзгадаць цытату з эсэ італьянскага пісьменьніка Альбэрта Савініё: «... Эўропа разумее, калі гэта «эўрапейская» Эўропа, што ніякая ідэя не бывае «галоўнаю». Што ніякая ідэя ня годная таго, каб яе ставілі вышэй за іншыя ідэі. Што ніводная ідэя не заслугоўвае таго, каб быць цэнтральнаю, каб яе лічылі самаю слушнай, самаю прыгожай, лепшай ідэяй. Гэткая «дэмакратыя» ідэй – адзіная ўмова прагрэсу. Дастаткова толькі ідэі спыніцца, як адразу ўтвараецца тромб, які перашкаджае хуткаму й лёгкаму цячэньню ідэй і стрымлівае прагрэс». Вось так. Ні больш, ні менш.*

*На гэтым кажу: Да пабачэньня!*

*Жыве Беларусь!*

**Сяргей Прылуцкі, Берасьце**

Мой артыкул прысьвечаны праблеме дыскрымінацыі й славянафашызму. Нягледзечы на тое, што многія журналісты закранaлі ўжо гэтую тэму, яна, на маю думку, працягвае заставацца недастаткова асьветленай.

Усё часьцей і часьцей у праваахоўныя органы зьвяртаюцца людзі, што сталі ахвярамі дыскрымінацыі. Расьце колькасьць тых, якія цярпяць толькі з-за таго, што зьяўляюцца «не такімі» альбо «чужымі». Калі ты – асоба неславянскай нацыянальнасьці, альбо носіш даўгія валасы, альбо гаворыш па-беларуску, альбо проста «ня паліш», дык ты маеш усе шанцы быць зьбітым альбо нават забітым сярод белага дня. Простаму нефармалу, напрыклад, штодзень даводзіцца чуць за сьпінаю: «... волосатая гадина», альбо: «... страляць такіх трэба» (гэта ў лепшым выпадку).

Чалавеку, пацярпеламу ад дыскрымінацыі, амаль няма сэнсу зьвяртацца па дапамогу ў міліцыю, бо органы звычайна не займаюцца гэткімі здарэньнямі, у іх ёсьць і больш важкія справы: напрыклад, ахова адміністрацыйных будынкаў і разгон дэманстрацыяў. Большае, што зробяць для пацярпелага, дык гэта дадуць яму пpаглeдзець фотаздымкі злачынцаў, якія знаходзяцца ў вышуку; судмэдэкспэртыза стане найвялікшай ласкай.

Больш за ўсё дыскрымінацыйныя тэндэнцыі ахопліваюць моладзь, выхаваную ў малазабясьпечаных сем'ях, выраслую ў паўкрымінальным асяродзьдзі. Маладому, дужаму хлопцу толькі ў асалоду «разьмяць рукі», даказаўшы ўсім і, перш за ўсё, самому сабе, што «... я – моцны» і што «... мне за гэта нічога ня зробяць». У такіх выпадках часьцей за ўсё ахвярай становіцца ня першы стрэчны, а чалавек, адабраны па пэўным прызнаку. Каб было больш зразумелым, прывяду ўрывак з п'есы Славаміра Мрожэка «Караль»: «Акуліст. Але чаму вам трэба страляць менавіта ў нейкага Караля? Унук. А што ж, па-вашаму, ва ўсіх запар пуляць? Не-е, павінна быць сумленьне! Інакш садызм атрымліваецца». Так і тут...

На адной з апазыцыйных акцыяў пратэсту сёлета ўвесну мела месца цікавая падзея. З усіх удзельнікаў акцыі былі затрыманыя толькі два чалавекі – муж і жонка, якія несьлі плякаты з надпісамі «Беларусь – палігон для расейскага фашызму» і «Начальнік палігону» (пад гэтым надпісам прыводзілася выява Лукашэнкі). Калі сыходзіць з таго, што ўлада больш за ўсё баіцца праўды, апісаная вышэй падзея можа наштрухнуць на цікавыя развагі.

Цяжкая палітычная сытуацыя, што склалася як у Беларусі, так і ў Расеі, спрыяе ўзьнікненьню ў абедзьвюх братэрскіх краінах арганізацыяў фашыстоўскага кшталту, якія дзеля сваіх мэтаў выкарыстоўваюць моладзь, якая бачыць, як фігова жывецца іхным сябрам і іхным бацькам, і якой ой як хочацца пабіцца. Прасьцей абвінаваціць ва ўсім сіяністаў ды капіталістаў, чым знайсьці ў сабе моцы зьмяніць сваё жыцьцё ў лепшы бок. А ідэя чысьціні нацыі – вельмі зручная ідэя, яна вельмі добра падыходзіць дзеля апраўданьня сваіх учынкаў. Адна справа – біць па мордзе ад няма чаго рабіць, а другая – змагаючыся за нацыю.

Фашызм заўсёды набывае моц у краінах, якія церпяць глыбокі крызыс. Ён нібы зьяўляецца апошнім сродкам выратаваньня дзеля зьнясіленага народа, які бачыць адзінае выйсьце ў моцнай уладзе. Гэта настальгія па абсалютнай уладзе, што існавала на працягу амаль усёй гісторыі дзяржаўнасьці. Вера ў добрага цара зьмяняецца верай у добрага генсека, потым – верай у добрага прэзыдэнта, потым – у добрага фюрэра. Самай моцнай фашыстоўскай арганізацыяй у Беларуска-Расейскім саюзе зьяўляецца РНЕ – Русское национальное единство, якое выступае за яднаньне братоў-славянаў і абарону іх ад ворагаў (усіх астатніх).

РНЕ афіцыйна налічвае каля 200000 сяброў у Расеі й каля 1000 – у Беларусі. Лідэры гэтае цалкам легальнае арганізацыі праз нацыянальную ідэю імкнуцца дасягнуць мэты, якую перасьледуюць звычайна лідэры ўсіх палітычных арганізацыяў, а менавіта – прыход да ўлады. У Расеі Нацыянальнае Адзінства можа захапіць уладу толькі шляхам дзяржаўнага перавароту, але нават Адольф Гітлер пасьля правалу Піўнога путчу зразумеў, што дзеля таго, каб заняць кіраўнічыя пасады, трэба выкарыстоўваць толькі законныя мэтады.

У Беларусі РНЕ мае ўсе шанцы на законны прыход да ўлады. Прычым, без усялякіх выбараў. Лукашэнка мусіць ацаніць тую велізарную карысьць, якую прынясе яму падтрымка такога магутнага руху. Няма сумневаў, што РНЕ ў нас пашыраецца і будзе пашырацца з кожным днём. Паводле маіх зьвестках, у Менску, акрамя 1000 афіцыйных сяброў РНЕ, каля трох тысячаў маладых лічаць сябе прыхільнікамі фашызму. Таму цалкам магчыма, што ў хуткім часе прадстаўнікі Нацыянальнага адзінства зьявяцца ў дзяржаўным апараце нашае краіны. Калі прыгадаць старажытнае паданьне аб наймудрэйшым і найшаноўнейшым чалавеку, месца якога мог заняць толькі той, хто яго заб'е, і яшчэ больш старажытную мудрасьць наконт таго, што, забіўшы забойцу, ты сам станеш забойцам, дык адраджэньне фашызму ў краіне, якая перамагла фашыстоўскую Нямеччыну, выглядае хутчэй заканамернасьцю, чым выключэньнем.

Наўрад ці хто-небудзь забыўся на словы Аляксандра Лукашэнкі наконт ролі, якую адыграў Адольф Гітлер у станаўленьні Нямеччыны. Ня выключана, што калі фашысты ўвойдуць у беларускія кіраўнічыя колы, прэзыдэнт зробіць гэтую партыю асноўнай і ўсеагульнабеларускай; вядома, што дыктатар бяз партыі існаваць ня можа. Даўно пара. Тым больш, што больш харызматычнага ды папулярнага палітыка ў саюзе Беларусі й Расеі РНЕ знайсьці ня зможа.

У Менску Русское национальное единство мае ўласнае памяшканьне для збораў. Сябры гэтае арганізацыі вучацца рукапашнаму бою й стральбе з аўтамата Калашнікава. Таксама праводзіцца інтэнсіўная ідэалягічная падрыхтоўка. Праваахоўныя органы ня толькі не перашкаджаюць, але й садзейнічаюць фашыстам. У пераходзе на плошчы «Кастрычніцкая» можна набыць газэту «Лимонка», а пры жаданьні й значак са свастыкай, якая ў нашай краіне афіцыйна забароненая. І толькі не кажыце, што міліцыя пра гэта нічога ня ведае. У прэсе, часьцей за ўсё афіцыйнай, час ад часу можна знайсьці антыфашыстоўскія артыкулы, але яны, у асноўным, дзейнічаюць як добрая рэклама («Оба, в РНЕ дают пострелять из калаша! Пойду вступлю!») Фашыстоўскі рух ахоплівае нават вучняў малодшых клясаў. У хуткім часе пачнецца хваля маладзёвага канфармізму: патлатыя будуць стрыгчыся, а нацыяналісты – пераходзіць на расейскую мову. Асобам «неславянскай» нацыянальнасьці, асабліва габрэям, будзе цяжэй: ну, ня зьменіш жа свой твар альбо акцэнт. Ужо зараз для некаторых газэтаў антысэміцкія артыкулы – звычайная справа. І ніхто гэтыя газэты не зачыняе й не забараняе.

Адзін з гэтак званых законаў Мэрфі гучыць так: «Падзеі, кінутыя на самаразьвіцьцё, маюць тэндэнцыю разьвівацца ад дрэннага да горшага». Сапраўды, кожны наступны дзень будзе горшым за папярэдні. Але народ, як заўсёды, будзе пляскаць у далоні. Людзі, далёкія ад жыцьця горада, могуць назваць мяне панікёрам. Але, напэўна, кожны трэці тынэйджэр, жыцьцё якога праходзіць не за бэтоннымі сьценамі, а на вуліцах Менску, адчувае, што нешта ня тое. І трэба проста трошкі ўгледзецца, каб зразумець, што менавіта зьмянілася. Фашызм – зьява складаная й небясьпечная. Кожны сьвядомы беларус мусіць вызначыцца ў сваіх адносінах да гэтай зьявы. Ня трэба ні баяцца, ні сядзець, склаўшы рукі. Толькі актыўны пратэст кожнага канкрэтнага чалавека можа нешта зьмяніць.

**Антон-Вучань-Школы**

# ПЯЧАТКА ШКОЛЬНАЯ

Кожная палітычная сыстэма мае свае атрыбуты. Сыстэма памірае — і атрыбуты альбо гінуць зь ёю, альбо прыстасоўваюцца да новых умоваў. Аксіёма гэтая, на першы погляд, не выклікае сумневаў. Аднак у мітусьні, што ўтварылася падчас развалу апошняе імпэрыі, ніхто, здаецца, і не заўважыў, якая такая спадчына зрабіла ўпэўнены крок з гадзінаў сталінскае дыктатуры наўпрост у нашую сучаснасьць. А спадчына гэтая — нашая ШКОЛА.



Здымак Анатоля Клешчука

Я цудоўна памятаю, як гучаў (параўнальна нядаўна) мой апошні званок. На ўрачыстую «лінейку» на асфальтавай пляцоўцы сабраліся: прымусам прыведзеныя першакляшкі, якія шчэ не навучыліся думаць; прыведзеныя таксама прымусам, толькі ўжо «маральным», выпускнікі, што ўжо пасьпяхова навучыліся ня думаць; гамуз настаўніц, якія прагнуць сантымэнтаў, прызнаньняў у любові й кветак. Малодшыя паслухмяна пляскалі ў далонькі — дырэктару, што надрываўся ў зламаны мікрафон... сваім аднаклясьнікам, што чыталі вершыкі-дрындушкі на матыў «Харэ Крышна»... выпускнікам, што падыходзілі для атрыманьня граматаў... Я атрымала бліскучую, чырвоную, «серпасто-молоткастую» «Пачотную грамату» — «за выдатныя веды па гісторыі».

У нашай кляснай кіраўніцы й нават у некаторых дзяўчатак атрымалася выціснуць зь сябе сьлёзы; усе былі ва ўрачыстым засмучэньні.

А я глядзела на іх і думала: «Усё, усё! Гэта канец!» Яны садзяць нябожчыка за стол, а потым яшчэ дзівяцца: «Чаму гэта вячэра пахне трупярняю?»

Зараз мы назіраем распад савецкае школы, гэтай міні-дзяржавы, дзе даўно адбыўся крах, нябожчыцы, што забылася памерці. Гэта нават не апошняя стадыя хваробы, а цалкам заканамерная сьмерць, якую ніхто ня хоча заўважаць.

«Вучыцца, вучыцца й вучыцца!» — прамаўляў даволі слушна, як ні круці, таварыш Ленін. Але савецкая школа была пабудаваная насуперак гэтаму лёзунгу. Бо ў ёй ня вучацца. У ёй ВУЧАЦЬ.

Розьніца паміж «мяне вучаць» і «я вучуся» канчаткова была мною ўсьвядомленая ў адзінаццатай клясе. Менавіта тады я даведалася, колькі каштуе час. І мне было вельмі балюча забіваць штодзень па сем-восем гадзінаў. А колькі часу было забіта за адзінаццаць гадоў? Боязна падлічваць.

У апошні год маёй вучобы я перастала паважаць школу. Я перастала ўспрымаць любую інфармацыю, якую спрабавалі ўпіхнуць у мяне на ўроках. Я не рыхтавала хатнія заданьні й нават не насіла на заняткі кнігі. Я не хацела, каб мяне вучылі. Я вучылася сама, прычым даволі плённа.

Савецкія вучні робяць хатнія заданьні, каб не атрымаць двойкі. Савецкія вучні ходзяць на заняткі, каб іх не выклікалі ў настаўніцкую. Савецкія вучні вучацца, каб здаць школьныя іспыты. Савецкія вучні ня хочуць вучыцца. А калі хто й хоча, то ў школе рэалізаваць гэтае права ня можа.

Бо ўся сыстэма школьнае адукацыі заснаваная ў нас на прымусе. Вучні вучацца таму, што абавязаныя, а спытаць: «Дзеля чаго?» — і не адкажуць. Настаўнікі вучаць, бо абавязаныя, а на пытаньне «Дзеля чаго?» — адказу няма. Бо камунізм ужо ніхто не будуе, а за «вольную й незалежную Беларусь» можна толькі згубіць працу. Няма МЭТЫ — вось у чым праблема.

Дарэчы, у настаўнікаў усё ж ёсьць адказ на пытаньне «Дзеля чаго?» «Мне за гэта грошы плоцяць», — кажа настаўнік. Але адразу ж уздыхае: «Ды хіба гэта грошы?» Яшчэ адзін нонсэнс: вучыцца ўжо перасталі, хутка й вучыць перастануць.

І мая анкета «Чаму я навучылася ў школе» выглядае прыблізна так:

1) хлусіць і падманваць;

2) сьпісваць і падказваць;

3) прыніжацца й сьпяваць дыфірамбы;

4) разьбіраць швэйную машынку.

Да «зьбіраць» справа так і не дайшла.

Што ні кажы, але камуністамі была пабудаваная ідэальная машына для выхаваньня рабоў. Усе мы прайшлі праз савецкую школу. Усе мы хлусілі й падманвалі, больш ці менш пасьпяхова, на працягу адзінаццаці гадоў. На кожным з нас ляжыць пячатка вялікае школьнае няпраўды — пячатка школьная. І ўсе нашыя дасягненьні — не дзякуючы, а насуперак.

І дзеці нашыя ходзяць у тую самую школу, у якую хадзілі нашыя бацькі. Школу, дзе ніхто ня хоча вучыцца, нягледзячы на славуты лёзунг.

Таму, калі мы зьдзейсьнім запаветнае «прыйсьці да ўлады», пераўтварэньні трэба будзе пачынаць менавіта з сыстэмы школьнае адукацыі. Каб не выхоўваць новых рабоў, якія з маленства прывучаныя выконваць загады.

А тыя «рэфармісцкія памкненьні», што сьвярбяць цяперашняй уладзе, — не рэанімацыя, а ажыўленьне трупа. Адна з такіх шалёных ідэйкаў да болю нешта нагадвае: школьнае самакіраваньне, нават з выбарам прэзыдэнта...

А нашыя спробы пакуль што сама раз падобныя да выпадку, што адбыўся ў адной са школаў: проста з заняткаў хлопца на «хуткай» адвезьлі ў адмысловы шпіталь, дзе ён у адмысловай кашулі з доўгімі рукавамі, завязанымі за сьпінаю, распавядаў адмысловым лекарам свае праекты рэформы школьнае адукацыі...

**Яўгіньня Каляда**

# BACK IN USSR

**Большасьць людзей у Беларусі ніколі не чыталі Шэкспіра, ніколі ня слухалі Баха, ніколі не задумваліся пра падзеньне камунізму. Напэўна, штосьці падобнае можна сказаць пра любую іншую краіну і любы іншы народ сьвету. Але гэта ніякім чынам не зьмяншае значнасьці Шэкспіра, Баха й падзеньня камунізму для ўсіх. Гісторыю, культуру і цывілізацыю рухаюць наперад ня масы, а адзінкі, групы, выпадак і настрой.**

**30 гадоў таму войскі Варшаўскага пакту ўвайшлі ў Чэхаславаччыну. А перад тым была Праская вясна, адна зь першых спробаў падзеньня камунізму. З падачы чэскіх пісьменьнікаў, найперш Мілана Кундэры, Праская вясна ўспрымаецца менавіта як настрой. Гэтаксама ўспрымаюцца і балтыйскія сьпеўныя рэвалюцыі. Да прыкладу, польскі выхад з камунізму мы называем пэрыядам «Салідарнасьці» і вайсковага становішча. Заўважце, у музыцы зьявіліся мэталёвыя ноткі, а ў рэвалюцыйным аксаміце пракідаюцца жалезныя шарсьцінкі. Польскага варыянту для Беларусі ня хочацца. Тады як чэскі або балтыйскія выглядаюць рамантычна і прывабна.**

**Мы таму гаворым гэта, што наш выхад з камунізму яшчэ безвыходна наперадзе.**

**Большасьць людзей у Беларусі ніколі толкам не задумваліся над 68-м чэскім годам. А вялікае мноства народу нават нічога ня чула аб Праскай вясьне. І гэта зноў пацьвярджае думку пра тое, што масы ня робяць гісторыю. Калі, вядома, гэта ня масы, што запаланілі пляц перад прэзыдэнтурай.**

**Я думаю пра адну фатальную й страшную несправядлівасьць: гэта ж вялікае мноства людзей пражылі ўсё сваё адзінае жыцьцё ў Савецкім Саюзе, так і не даведаўшыся, што бывае інакш, лепей.**

**Я прасякаюся шкадаваньнем да такіх сваіх суайчыньнікаў, згадваю нават мармонскую споведзь за памерлых сваякоў і раптам разумею, што сёньня вакол мяне нямала людзей працягваюць жыць у СССР. І што рэсаветызацыя, якую праводзяць улады ў Беларусі, дазваляе не перажываць унутраную драму разьвітаньня са звыклымі арыентырамі. Быццам нехта раздае квіткі на такі атракцыён — магчымасьць дажыць свой век у Савецкім Саюзе і так ніколі й не даведацца, што такое СВАБОДА.**

**Вяртаньне да ўлады беларускае намэнклятуры моцна нагадвае тую ж Прагу ў жніўні 68-га. Праўда, чэхаславацкая намэнклятура дзейнічала пад яўным маскоўскім пратэктаратам, у нас жа ўсё робіцца пад таемным уплывам і паводле покліч сэрца. Але вынік, бадай, той самы. На знакавым узроўні яго можна сфармуляваць так: нацыянальная інтэлігенцыя патрапіла ў турмы або падалася на эміграцыю.**

**Ізноў жа народ у масе сваёй не праводзіць такіх паралеляў. Чаму? Каб не напалохаць самога сябе? Ці таму, што такі роздум не ўваходзіць у правілы атракцыёну пад назвай «працягваем жыць у СССР»?**

Сяргей Паўлоўскі

## НАР-МАЛЬ-НАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Эпахальныя падзеі гісторыі найчасьцей бачаць і адпаведна ацэньваюць толькі тыя, хто непасрэдна бярэ ў іх удзел. Астатні народ жыве сваім звычайным клопатам і ў выніку альбо прымае падарункі гісторыі, альбо становіцца гэтай гісторыі ахвярай, а найчасьцей — застаецца нямым сьведкам эпахальных перамен.

Калі ў студзені 91 году па Вільні ішла страляніна й тысячы людзей ратавалі свабоду Літвы, гэтулькі ж людзей займаліся сваімі штодзённымі справамі. Аднамасова па горадзе езьдзілі танкі і ў гастраномах стаялі звычайныя савецкія чэргі па дэфіцытныя харчы.

Памятаю, я прыехаў тады ў Вільню зь Пецярбургу, дзе тысячы расейцаў прагна лавілі кожную вестачку зь Літвы, варожачы, куды павернецца гісторыя былое імпэрыі. А ў Вільні па-ранейшаму хадзілі тралейбусы, працавалі кавярні і нават чарга па швэйцарскія лёды, нягледзячы на зіму, была звыкла доўгаю. Толькі калі сьцямнела, недзе далёка, у мікраараёнах пачулася страляніна. Але за вокнамі кватэраў нехта сьпяваў, нехта глядзеў тэлевізар, нехта ўшчуваў дзяцей. Між тым, Літва стала незалежнай...

Калі ня быць у Беларусі, скажам, пару тыдняў, і арыентавацца ў падзеях толькі паводле прэсы, можна скласьці сабе ўражаньне, што там па вуліцах езьдзяць танкі, штодня ўчыняюцца аблавы й пагромы, а паняволены народ жыве ў голадзе й холадзе. Невыпадкова замежныя калегі ўвесь час пытаюцца ў беларускіх гуманітарыяў, колькі часу яны правялі ў вязьніцах і колькі яшчэ журналістаў томяцца ў лукашэнкаўскіх турмах... «Ніводнага?» — недаверліва перапытваюцца замежнікі.

Між тым, што ў Ашмянах, што ў Менску людзі жывуць, як і жылі, а часам нават і лепей. Савецкія чэргі па харчы яшчэ не вярнуліся. У дзяржаўных шапіках можна набыць сьвежую апазыцыйную прэсу, а ў «блакітным» экране пабачыць расейскія пароды на нашага саўгаснага прэзыдэнта. Новых заходніх машын на дарогах усё болей. Ды й па вопратцы сёньняшніх беларусаў мала адрозьніш ад астатніх эўрапейцаў.

Менск моцна зьмяніўся за апошнія год-паўтары. У некалі безаблічных мікраараёнах паўсталі «макдональдсы», шэрыя гмахі дамоў усё болей заляпляюцца яркай заходняй рэклямай. Цэнтральныя вуліцы хораша падмеценыя, дамы сьвежапафарбаваныя, шмат кветак. Новыя крамы, кавярні, рэклямы то тут, то там яшчэ зьдзіўляюць вока. Праўда, недарэчнасьці, што закладзеныя ў самім спалучэньні «рынкавы сацыялізм», выяўляюцца і ў практыцы гэтага самага незразумелага сацыялізму. «Всегда живая рыба!» — напісана на тралейбусе. «Живее всех живых», — падхопліваe памяць. «Поздравляем с Днём Военно-Морского флота!» — крычыць рэклямны транспарант. Якога флёту? Якой краіны? А людзі вакол нібы й не задаюцца пытаньнямі. Напрыклад, чаму пры «сацыяльна арыентаванай эканоміцы» кошты ў розных кавярнях розьняцца ў дзесяць (!) разоў. Вось тут нехта вячэрае за даляр, а за рогам — за тры сярэднія ў краіне заробкі. Сёньня лягчэй параўноўваць Варшаву, Кіеў і Вільню. Менск не падобны ні на што.

Загаловак у газэтах: «Суд над беларускай мовай!» «Нашу Ніву» сёньня судзяць паводле бальшавіцкай пастановы 33-га году. Іду па Менску, узіраюся ў твары людзей, удыхаю паветра роднага гораду. Не, нічым «таталітарным» ня пахне. Але гэта ня значыць, што таталітарызму няма. Бо сапраўды адбываецца суд над мовай, сапраўды сядзяць у «валадарках» і «амэрыканках» палітычныя. Здаецца, калі некага ў гэтай краіне за тоўстымі сьценамі казённых установаў будуць судзіць паводле пастановаў 37-га году, нават тады большасьць народу будзе глядзець тэлевізар, сьліваць пад чарку і ўшчуваць гарэзьлівых дзяцей.

Менавіта гэтак сёньня ў Менску разгортваецца мяжа, якая няўмольна й адназначна падзеліць нас, беларусаў, назаўсёды. На тых, хто, не задаючыся пытаньнямі, будзе выконваць чужыя пастановы памерлых рэжымаў, і на тых, хто прагне жыцьця; на тых, для каго Беларусь — недарэчнасьць, і на тых, для каго Беларусь — будучыня. Сёньня пытаньне беларускага правапісу абыходзіць усіх, хто піша ці пісаў па-беларуску. Заўтра ніхто зь іх ня зможа сказаць, што нечага ня ведаў, ня гэтак разумеў... Ну а астатнім, астатнім застаецца іх штодзённае, нармаль-нае жыцьцё.

Гары Куманецкі

## ПРАГА 68-ГА Ў МЕНСКУ 98-ГА

### *Апытаньне на вуліцах горада*

Зьміцер Вайцюшкевіч з гурта «Крыві», якога я сустрэў каля аднаўленае катэдры на пляцы Волі, гэтак ахарактарызаваў уваход савецкіх войскаў у Чэхаславаччыну:

*— Гэта калі да цябе ў хату прыяжджае чалавек і пачынае хадзіць па стале нагамі, спаць з тваёй жонкай на тваіх вачах...*

Спадар, які працуе ў сфэры шоў-бізнэсу і якога я спыніў ля рэстарану «Крыніца»:

*— Лично меня ничего не связывает с Чехией. Я там ни разу не был и вспоминать об этом не хочу.*

Першакурсьніца філфаку БДУ выявіла больш цікавасьці да падзеяў трыццацігадовае даўніны:

*— Я чытала ў газэце, што сёньня будзе пікет пакаяньня. Таму што беларусы таксама былі ў савецкім войску і Беларусь уваходзіла ў склад СССР.*

А вось два таксоўшчыкі, што пільнавалі пасажыраў на пляцоўцы перад фірмовай цырульняй «Мара», палічылі, што з акупацыяй Чэхаславаччыны няма ніякіх праблем. Пра маральную адказнасьць беларусаў яны сказалі наступнае:

*— Нет. Не несут ничего. Ничего абсолютно.*

Наступны рэспандэнт аказаўся аднагодкам падзеяў жніўня 1968 г.

*— По-моему, любой белорус, который думает, несет ответственность. В моральном плане это была оккупация или, скорее, интервенция.*

Студэнт, які адпачываў на лаве:

*— За те события Беларусь несет ответственность чисто историческую. Она была в Союзе, а это были союзные, скажем так, дела.*

Затым я зьвярнуўся да двух сябровак дваццаціпяцігадовага веку. Адна зь іх сказала:

*— Сейчас каждый волен жить так, как ему хочется. Я не берусь ничего характеризовать, потому что — не стоит после стольких лет забвения. Войны затеваются ради того, чтобы кому-то в карман перетекло определенное количество денег.*



Сусед па лаве, які зарабляе свой хлеб зборам пляшак:

*— В принципе, я и тогда был против этих дел. Зачем соваться в чужие дела? Пусть они сами решают свои вопросы... Для общественности никто ничего не говорил. А между собой говорили всегда, что это неправильное решение.*

А вось словы кабеты, якая гулялася ў сквэрыку са сваёй унучкай:

*— Мы люди более философского настроения. Я считаю, это прошло как историческая дата, всего лишь. Для изучения и познания.*

Сталы спадар каля кафэтэрыя «Пінгвін» таксама быў настроены на філязофскі лад:

*— Это был коммунистический режим. Фашиствующий. Все, кто входил в Советский Союз, несут моральную ответственность. Не белорусы, а руководители этих стран.*

Перад самым сканчэньнем майго шпацыру, каля выхаду з станцыі мэтро «Кастрычніцкая» я спаткаў літаратара і выдаўца Адама Глёбуса і запытаўся ў яго, ці ёсьць сувязь паміж сучаснай Беларусяй і Чэхаславаччынай 1968 году?

*— Думаю, ёсьць. Я добра памятаю, як чытаў часопіс «Советская Чехословакия». Гэта быў самы круты часопіс на тыя часы.*

Што да пачуцьця віны:

*— Асабіста мне няма ў чым каяцца. Але прынесьці спачуваньні ўрад наш павінен.*

Апытваў Севярын Квяткоўскі

# НЕЗАЎВАЖАНАЯ АЭС

## *Перад злачынствам*

*Працяг са старонкі 1*

чыстае вады й лясных масываў, затое прамысловага куродыму й так хапае. Па-другое, кошт адных толькі мэліярацыйных работаў, выграбаньня балотных глебаў і засыпкі новага грунту склаў кошт усяго нерухомага фонду таго ж Рудзенска. Па-трэцяе, нават недасьведчаныя ў ядзернай фізыцы людзі насьцярожыліся ад таго, што для энэргетыкаў задумлялася дарагая і мудрагелістая сыстэма бясьпекі, у той самы час, як для жыхароў мястэчка нічога не прапанавалася. Найбольш дальнабачныя пыталіся: няўжо тубыльцы будуць закладнікамі?

Пасьля Чарнобыля ўсе гэтыя пражэкты, здавалася, пахаваныя назаўжды. Дык не! Разам зь вяртаньнем бээсэсэраўскае ідэалёгіі былі паднятыя й бээсэсэраўскія праекты. Праўда, сёньня прыхільнікі гэтага праекту ўжо прыкрываюцца «незалежніцкімі» фразамі. Мы, як кажуць, развітая краіна, у 33 краінах АЭС ёсьць, а ў нас дагэтуль няма. Маўляў, Беларусь ня будзе залежаць ад расейскага паліва. Аднак сьціпла замоўчваюць, што большая частка абсталяваньня й паліва для таго ж рэактара будзе закупляцца не ў Намібіі ці Францыі, а ў той самай Расеі.

Навошта ж распачалася гэтая новая кампанія сёньня? Па-першае, беларускі рэжым спрабуе ізноў прадэманстраваць сваё «особое мнение». У той час, як большасьць эўрапейскіх АЭС будуць закрытыя да 2030 году, беларуская паводле праекту толькі «раскачагарыцца». А па-другое, надта ж шмат ахвочых пагрэць рукі пры ядзерным агеньчыку. Нават паводле падлікаў апалягетаў «мірнага атаму» кошт станцыі складзе больш за 6 мільярдаў даляраў, альбо 6 гадавых дзяржаўных бюджэтаў Беларусі. Будаўніцтва расьцягнецца на гады, будуць падключаныя расейскія партнэры, з Расеі ж возьмуцца і крэдыты. Праектантам гэтага хопіць, каб уладкаваць свой дабрабыт як сьлед. А там, там за даляглядам новага тысячагодзьдзя хай разьбіраюцца іншыя... Напрыклад, куды дзець адыходы вытворчасьці? Бадай ізноў жа — заплаціць Расеі за перазахаваньне. Тым часам можа і дактары навучацца лепей лячыць анкалягічныя захворваньні. Прыхільнікі гэтае будоўлі папросту ня бачаць Беларусі ў наступным стагодзьдзі...

Развагі Раскольнікава пра сьветлую будучыню скончаліся па меры таго, як ён даходзіў да мэты свае выправы. Ён уяўляў сябе Напалеонам...

**Антон Сіюль**



**P.S.** Сапраўды, калі глядзець на кантэкст гэтага лета ў самым літаральным сэнсе, дык можна пабачыць, як нараджаюцца і нагрувашчваюцца праблемы, пакутаваць ад якіх будуць ужо наступныя пакаленьні. Згаданая АЭС, за якую Беларусь ніколі не разьлічыцца з Расеяй, а гэта значыць, павяжа сябе навечна эканамічнай залежнасьцю, сьпіхнуць адказнасьць за якую можна будзе толькі праз поўную залежнасьць палітычную і страту ўласнае адметнасьці як нацыі і краіны. А дадамо сюды праект «Залатога кальца», пра які мы ўжо распавядалі ў папярэдніх нумарах. Тады — недабудаваны менскі цыкляпічны вакзал, які пры амаль поўнай ізаляцыі краіны з Захаду асуджаны на лёс аэрапорту Менск-2, куды так і не прыйшла ажыўленасьць буйнога аэравакзалу. Альбо новая тэлевежа, задуманая ў беларускай сталіцы на ўзор Астанкінскай. Ужо сёньня мэтазгоднасьць такіх збудаваньняў — пад вялікім сумневам. А пасьля будаўніцтва, праз колькі гадоў — застанецца толькі разьвесьці рукамі ад раптоўнага ўсьведамленьня таго, якія каласальныя чалавечыя і матэрыяльныя рэсурсы ў нас узялі ды выкінулі ў нікуды.

Сучасныя архітэктары краіны нагадваюць цара Мідаса наадварот. Гэта ён выпрасіў у Бога, каб усё, да чаго дакранаецца, ператваралася ў золата. У нас жа, у нашай неверагодна прыгожай краіне ейныя цары да чаго ні дакрануцца — усё ператвараецца ў пыл. Кожнае новае кіраўніцтва Беларусі нібы імкнецца апярэдзіць папярэднікаў у доказах праўдзівасьці Караткевічавай казкі пра найлепшую ў сьвеце зямлю і найгоршае ў сьвеце начальства.

*Сто твораў мастацтва ХХ стагодзьдзя*

# Віталь Цьвірка. Ганча – партызанская зямля

... Гомельшчына стала радзімаю прынамсі трох клясыкаў савецкага жывапісу: Ніскага, Майсеенкі й Цьвіркі. Апошнія два нават паходзяць з адных мясьцінаў, з Буда-Кашалёўшчыны. Ці то з наканаваньня, ці з гіроніі, але менавіта на іх і скончыўся жанар рэалістычнага пэйзажу ў мастацтве СССР. Дзякуючы іхнай жа творчасьці. Лёгіка стылёвае эвалюцыі, якую яны прайшлі, прывяла да канстатацыі: сацрэалізм вычарпаны да рэшты.

... Віталь Цьвірка нарадзіўся перад першай сусьветнай вайною, у далёкай палескай вёсцы, дзе ягоны бацька працаваў школьным настаўнікам і быў да таго ж мастаком-аматарам. Бацька вучыў сына маляваць, капіяваць рэпрадукцыі клясычнага жывапісу ды кніжныя ілюстрацыі.

Напрыканцы двадццатых сям'я перабралася ў Менск. Тут, у дамку на вуліцы Слонімскай, іх суседам быў Кандрат Крапіва, які тады ня меў і трыццаці гадоў. Штораніцы яны бачыліся за адным сталом. Увесь час вясёлы, рухавы Крапіва сыпаў жартамі, дэклямаваў свае вершы й байкі. Другім настаўнікам пасьля бацькі Цьвірка лічыў менавіта Крапіву, які прышчапіў яму ня толькі беларушчыну й тыя, свае асабістыя ўяўленьні пра нацыянальную культуру, але й прагу самавыяўленьня праз малюнак. Малады Крапіва быў добрым малявальшчыкам і з захапленьнем ілюстраваў уласныя творы.

Трэцім настаўнікам для Віталя Цьвіркі стаў Міхал Станюта, які ў сваёй невялічкай кватэры наладзіў сапраўдны клюб менскае багемы. Сам Станюта напару з Філіповічам вёў заняткі ў сваёй хатняй «студыі». Дзякуючы нястомнаму імпэту гэтых настаўнікаў-адраджэнцаў, Цьвірка атрымаў дастатковую падрыхтоўку, каб працягнуць адукацыю...

... Віцебск тым часам нарэшце быў вернуты Беларусі. Праўда, у ім ужо не было тых майстроў, што склалі гораду славу. Цьвірка паступае ў пост-шагалаўскі, пост-малевіцкі Віцебскі мастацкі тэхнікум, у 1929 годзе, калі тут яшчэ не забыліся галасы славутых мэтраў...

... Біяграфія Віталя Цьвіркі – нібы міні-энцыкляпэдыя мастацкае адукацыі ў СССР. Як і большасьць маладых мастакоў камуністычнае Беларусі, ён марыў пра вучобу ў Маскве. Мара зьдзейсьнілася. У 1935-м ён паступіў у Маскоўскі мастацкі інстытут. Ягонымі настаўнікамі тут былі Герасімаў, Ражскі, Грабар. Ці то мізантроп Герасімаў, ці то вялікі эрудыт, рэстаўратар старажытнага жывапісу Грабар, але прынамсі нехта з гэтых настаўнікаў падраіў маладому беларусу ягонае крэда – пэйзаж. Па вайне Цьвірка стаў першым савецкім пэйзажыстам у Беларусі з цалкам савецкай адукацыяй...



**Віталь Цьвірка** (1913, в. Радзеева, Буда-Кашалёўскі раён – 1993, Менск) жывапісец, выкладчык. У 1932 скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум. У часе вайны, у 1942 закончыў Маскоўскі інстытут імя Сурыкава. Выкладаў у Менскай мастацкай вучэльні. З 1958 па 1960 – рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытуту. Ачольваў праўленьне Саюзу мастакоў БССР з 1962 па 1963. У 1967 атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР. Народны мастак БССР.



... Вядома, былі спакусы выявіць нешта «сур'ёзнае». У той час нават тонкі эзатэрык Грабар, які не пісаў нічога жанравага, з уласнай волі палічыў патрэбным адгукнуцца на падзеі вайны. Патрыятызм. У 1944-1945 г. Цьвірка езьдзіць па Беларусі й стварае шэраг невялікіх пэйзажных палотнаў, эцюдаў у мясьцінах, зьвязаных з падзеямі вайны. Гэтак нарадзілася нізка, цяпер малавядомая, ва ўнікальным жанры. Гэта й «Руіны Менска», і «Камэра нямецкага СД», і «Двор лягера Масюкоўшчына» ды яшчэ некалькі рэчаў...

Сама кан'юнктура тады падказвала, што й адной працай, прысьвечанай ваенным падзеям, можна «праравацца» у клясыкі. Пэйзаж для гэтага надаваўся мала. Патрабавалася плякатнасьць. І Цьвірка стварае такія хрэстаматыйныя творы, як «Палонных вядуць», «Няскораныя», «Жыцьцё нараджаецца» ды іншыя, напісаныя ў духу настаўніка Ражскага. «Няскораныя» (1947) – палатно, на якім выяўлена страта партызанаў нямецкімі вайскоўцамі, – наогул лічыліся доўгі час ці не наймацнейшым абагульненьнем чалавечае трагедыі... Не прамінуў Цьвірка й сталініяны, склаўшы сваю даніну бальшавіцкаму правадыру. Значна пазьней, у адным з інтэрвію пачатку 80-х мастак сказаў: «У той час у паваенным жывапісе йснаваў гэтак званы парадна-лякіроўны стыль. Тэорыя бесканфліктнасьці штурхала мастакоў да штучнай пабудовы кампазыцыяў, аднастайных усьмешак на тварах герояў карцін. Пэйзажу ўсё гэта супрацьпаказана. Пэйзаж – сумленны жанар, а праўдзівасьць, шчырасьць пачуцьця я цаню ў мастацтве вышэй за ўсё». Цьвірка закінуў жанравы жывапіс і засяродзіўся на пэйзажы.

У 1954-м ён піша адзін з найлепшых сваіх твораў – «Ля млына» – у клясычных традыцыях расейскага перасоўніцтва XIX ст. Нават, дакладней, у духу маскоўскае школы, у духу Паленава. Атрымаўся своеасаблівы рэлікт. Сам Цьвірка казаў, што пісаў гэтае палатно доўга, за некалькі дзясяткаў сэансаў. Гэты твор стаў шэдэўрам усяго савецкага жывапісу, адзначыў пералом мастацкіх эпохаў, адыход ад паўсюднае ліпучае ідэалёгіі. Мажорнае вяртаньне да нармальнага людзкага бачаньня сьвету. Для беларускага мастацтва гэты твор пазначыў зварот, ці вяртаньне, да праблемаў прасторы, прыроды сьвятла.

Тым часам мастак яшчэ не пакідае сваіх амбіцыяў жанрыста. У 1957 годзе ён раптам зьвяртаецца да гісторыі Заходняе Беларусі й піша палатно «Паўстаньне рыбакоў на возеры Нарач». Шматфігурная кампазыцыя нібыта павінна была перадаць драматызм вызвольнае барацьбы беларусаў супраць польскае акупацыі. Аднак выйшла нешта не зусім адпаведнае задуме... Сакавіты каляровы лад, глыбокая паветраная пэрспэктыва, карагод адкрытых каляровых плямаў... Як слушна (міжволі) пазьней пісалі савецкія мастацтвазнаўцы, гэтае палатно нарадзілася пад уплывам маляўнічых краявідаў «беларускага мора» – Нарачы, куды мастак езьдзіў адпачываць.

З 60-х гадоў пачынаецца радыкальна іншы этап творчасьці Цьвіркі. «Паліроўка» маскоўскае адукацыі ўсё больш адыходзіць у нябыт, у біяграфічныя згадкі. Захоплены краявідам Беларусі, якую ён аб'ездзіў ды абыйшоў, мастак раскрывае для сябе ўсё больш адпаведныя жывапісныя прыёмы. Радасьць ад бясконцасьці зразумелых разлогаў роднай краіны дыктавала новы, лёгкі, імпэтны жывапісны кшталт. У тыя часы ён стварае сёньня ўжо добра вядомыя карціны: «Родныя далягляды», «Сьвір», «Сказ пра Палесьсе» ды дзясяткі іншых палотнаў, што вызначылі ягоны адметны, лёгка пазнавальны стыль. Сацыяльны статус (рэктар Інстытуту) і максімальнае дыстанцыянаваньне ад сталічнага «сьвету», давалі свабоду. «Мастацкі твор, а менавіта пэйзаж нельга «высмактаць з пальца». Дакладней, можна, але гэта заўсёды будзе бачна», – сьцьвярджаў мастак. Ён выбраў сабе ў пэўным сэнсе наіўную задачу, больш уласьцівую папярэднім эпохам – паказаць усю сваю радзіму, усе яе куткі, яе адметнасьці.

Напрыканцы 60-х гэты натуралістычны, ці, дакладней, геаграфічны запал саступае месца спробам абагуліць, падсумаваць досьвед. Палотны становяцца гімнамі. Эпічны размах абумоўліваецца высілкамі стварыць адназначны, ясны вобраз сваёй краіны. Гэтак у 1969 годзе ён піша «Ганчу – партызанскую зямлю».

Як мастакі называюць палотны? Часам ніяк, каб не замінаць чыстаму ўспрыманьню пэўнага вобразу. Часам наадварот, называюць з мэтаю напоўніць работу нейкім дадатковым, часам парадаксальным зьместам. Парадаксальны, у сваю эпоху, Цьвірка даў парадаксальную назву свайму твору на ўсе эпохі. Калі папярэдне ня бачыць гэтае карціны, а толькі пачуць яе назву, то, будучы хоць у нейкай ступені знаёмым з савецкім мастацтвам, няцяжка сабе ўявіць людзей са зброяй, ці піянэраў, што схілілі галаву, ці яшчэ што-небудзь з гэтага роду... Немагчыма толькі прадбачыць, што гэтак можна было назваць... абраз. Менавіта абраз, на якім барвовы сонечны німб прытуляе зямлю, аддадзеную на пакуты. Гэткую годную й прыгожую зямлю, якая прагне любові. Зямлю, над якою шэра-зялёнае неба і залатыя воды.

**Сяргей Харэўскі**

### Творы, прадстаўленыя ў папярэдніх нумарах «НН»:

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля.
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск. Лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску
23. Станіслаў Жукоўскі. Інтэр'ер
24. Пакроўскі сабор у Баранавічах
25. Міхал Станюта. Партрэт дачкі
26. Яўхім Мінін. Усьпенскі сабор у Віцебску
21. Ізраіль Басаў. Успамін

# Твары без вачэй

## *Партрэт савецкага пісьменьніка*

За гады сацыялізму ў БССР было створана мноства партрэтаў беларускіх пісьменьнікаў. Іх галерэя складае асобны жанар сацыялістычнага рэалізму. Ягоны пачатак – канец 20-х гадоў, калі на хвалі беларусізацыі ўжо фармавалася славутая герархія: Купала, Колас, Багдановіч. Тады былі створаныя першыя клясычныя партрэты песьняроў работы Віера, Кругера й Полазава, прадстаўнікоў віцебскага «старарэжымнага» рэалізму, якія прадвызначылі накірунак гэтага жанру на дзесяцігодзьдзі наперад. Праўда, на выставе, прысьвечанай дзясятай гадавіне сьмерці Багдановіча, элегічны настрой дазваляў некаторыя адхіленьні. Напрыклад, славуты лірычны бюст Грубэ гэтак і застаўся нераўзыйдзеным па сіле свайго эмацыйнага ўзьдзеяньня, хоць зусім ня ўпісваўся ні ў атмасфэру часу, ні ў патрабаваньні «быць даступным». Вобраз Купалы на мяжы 20-х і 30-х наогул стаў культавым, так бы мовіць, праграмным для кожнага мастака ў БССР. Больш за тое, ён пранік нават у народнае мастацтва. З чаго толькі ні выраблялі купалаўскія партрэты: з саломкі, з кветак, з пер'я й нават зь яечнага шкарлупіньня.

Але гэтымі асобамі жанар фактычна й быў вычарпаны да трыццатых гадоў. І ён прапаў на доўгія гады, аж да канца апошняе вайны. Мастакам, бадай, было цяжка ўсачыць за паваротамі «гэнэральнае лініі» партыі. Рэанімацыя жанру ў саракавыя гады пачыналася ледзь не з нуля. Як пісаў пазьней, у 70-м, мастацтвазнаўца Місюк: «Гэты від партрэта... для беларускіх мастакоў, што ня мелі ў гэтай галіне ніякага досьведу, быў асабліва складаным».

Між тым, на выставе, прысьвечанай 25-м угодкам БССР, былі выстаўленыя (апроч Купалы й Коласа) партрэты Пятра Глебкі й Кузьмы Чорнага. Паваенная культура БССР правярала свае шэрагі наноў. Шчасьлівая Беларусь мусіла мець шчасьлівы выраз твару. І гэткіх «шчасьлівых» і «радасных» твораў не бракавала. Сівабародыя калгасьнікі й юныя піянэркі махалі букецікамі, вітаючы сьвятло з Усходу ў сотнях палотнаў. Але, на дзіва, вось чаго не было ў партрэтах літаратараў, дык гэта аптымізму. Жывапіс Ахрэмчыка, Волкава, Зайцава ды іншых, нібы адмыслова станавіўся млявым і анэмічным, каб падкрэсьліць рысы стомленых, бязвольных людзей, якімі сталі ў іх палотнах беларускія пісьменьнікі...



... Наўзгад пытаючыся ў сваіх знаёмых, я высьветліў, што

# МАЦКЕВІЧЫ

*З гісторыі роду, расказанай у дакумэнтах*

## ПАД ПОЛЬСКАЙ АКУПАЦЫЯЙ

Самы адлеглы ў часе дакумэнт, які знаходзіцца ў нашым распараджэньні і датычыць гісторыі беларускага роду Мацкевічаў, пазначаны 1926 годам. Гэта позва №4326 управы Крывіцкай гміны Вялейскага староства, дасланая ў вёску Ракуці родным памерлага Міхала Мацкевіча, якая ў адпаведнасьці з пастановай Вялейскай скарбавай управы запрашае найбліжэйшага крэўнага зьявіцца 18 лістапада 1926 году а 9-й гадзіне раніцы ў будынак управы дзеля вырашэньня справы па спадчыне. Пад дакумэнтам стаіць подпіс войта гміны.

У справе №2471к за 1928 год позва ад 30 лютага 1929 г. запрашае ЯНА (ІВАНА) МАЦКЕВІЧА зьявіцца ў будынак суда м.Крывічы 22 сакавіка 1929 году. Подпісы сакратара суда і вознага (кур'ера). На адвароце позвы – вытрымкі з адміністрацыйнага статуту тагачаснай Польшчы.

Наступныя судовыя позвы – на 20 сьнежня 1929 году. На 8-га красавіка 1930-га. На 8 кастрычніка 1930-га.

Позва №1815 ад 14 жніўня 1934 году, дасланая з управы Крывіцкай гміны, паведамляе АДАМУ МАЦКЕВІЧУ, што ён, згодна пастановы пра дарожную павіннасьць у 1934 годзе, абавязаны 29 жніўня гэтага ж году а сёмай гадзіне раніцы прыгнаць тры конныя падводы на гмінную дарогу «Крывічы – Дубаносы», што каля в.Задубеньне. У выпадку невыкананьня загаду яго чакае штраф.

Шарварка (ад ням. Scharwerk) – грамадзкія рамонтна-будаўнічыя работы, пра якія ідзе гаворка ў позьве ад 14 жніўня 1934 году, – практыкаваліся яшчэ ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Разьліковы рахунак №732 ад 14.05.1934 году сьведчыць, што на будаўніцтва дарог мясцовыя жыхары, якія бралі ўдзел у шарварачных работах, павінны былі: пастаўляць камень, жвір альбо пясок, фашыны; рыць катлаваны, прыдарожныя ірвы; прафіляваць каляю, выкладаць адхоны дзірваном; рабіць падсыпку. 14 траўня 1934 году ІВАН МАЦКЕВІЧ выканаў шарварачных работ на 4 злотыя.

Ян Мацкевіч, сын Адама Мацкевіча, павінен быў зьявіцца ў Крывіцкі гарадзкі суд 13 верасьня 1935 году, 13 лістапада 1935 году і 17 студзеня 1936 году. Позва №4013 ад 30.10.1936 г. запрашала братоў Яна і Язэпа Мацкевічаў наведаць Крывіцкую гміну 2 лістапада 1936 г. і пагражае ў выпадку незьяўленьня ўжываньнем карных сродкаў.

Наступныя позвы ў Крывіцкі гарадзкі суд:
ЯЗЭПУ і АДАМУ МАЦКЕВІЧАМ – на 22 сьнежня 1936 году;
ЗАБЭЛІ МАЦКЕВІЧ, дачцы АДАМА МАЦКЕВІЧА – на 10 студзеня 1939 году;
ЗАБЭЛІ МАЦКЕВІЧ – на 17 лютага 1939 году;
ЗАБЭЛІ МАЦКЕВІЧ – на 27 сакавіка 1939 году.

## ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ

Дакумэнтаў, якія сьведчылі б пра адносіны роду Мацкевічаў зь нямецкай акупацыйнай уладай, мы ня маем. Магчыма, што іх і не было. Затое ёсьць шматлікія квіткі й абавязальніцтвы паваеннага часу. Першы такі дакумэнт – прыёмна-разьліковая квітанцыя №930344 на прынятыя масла, сьметанковы сырэц, сала-шпік, авечы й сьвіны лой, масла авечае і казінае. Па абавязацельстве №12320 ад 19 красавіка 1950 году МАЦКЕВІЧ ЗАБЭЛЯ ІВАНАЎНА здала савецкай акупацыйнай уладзе ў асобе СССР 600 грамаў масла па цане 4 руб. 50 кап. за кіляграм і атрымала 2 рублі 70 капеек.

IV квартал 1953 г. Сшытак па беларускай літаратуры вучаніцы 7 «Б» клясы Крывіцкай школы МАЦКЕВІЧ ЕВЫ. На першай старонцы наклеены партрэцік Янкі Купалы, выразаны з хрэстаматыі, ніжэй – «Складаны план паэмы Тараса Шаўчэнкі «Тарасова доля». Папраўкі настаўніка адсутнічаюць.

Сачыненьне «Роля беларускіх партызан у гады Вялікай Айчыннай вайны». Беларуска ЕВА МАЦКЕВІЧ піша: «Таварыш Сталін быў упэўнены, што БЕЛАРУСКІ народ пераможа ворага». Настаўнік падкрэсьлівае чырвоным атрамантам слова «беларускі» й зьверху піша: «совецкі».

«І вось БЕЛАРУСКІ народ перамог ворага», – завяршае сваё сачыненьне беларуская дзяўчына. Гэтым разам настаўнік слова «беларускі» толькі падкрэсьлівае. І ставіць адзнаку «4».

Год 1954-ы. Рукою СТАНІСЛАВЫ МАЦКЕВІЧ напісаны чарнавік аб'явы, у якой паведамляецца, што «Сёння, 12 красавіка, у 5 гадзін 40 мінут вечара адбудзецца КОМСАМОЛЬСКІ сход». Тэма сходу: «1) Аб вучобе і паводзінах КОМСАМОЛЬЦАЎ». Подпіс у дужках: «Камітэт КОМСАМОЛЬЦАЎ».

Год 1956-ы. Абавязацельства №8723 на пастаўку дзяржаве мяса, малака, яек, воўны, скураў і бульбы. Пастаўшчык: МАЦКЕВІЧ ІВАН АДАМАВІЧ, жыхар вёскі Ракуці Пузырэўскага сельсавету Крывіцкага раёну Маладачанскай вобласьці (калгас імя Пушкіна).

Неабходна здаць: МЯСА у (жывой вазе) – 30 кіляграмаў. У тым ліку па тэрмінах:
– з 1 студзеня па 31 сакавіка (1956 г.) – 8 кг;
– з 1 красавіка па 30 чэрвеня – 9 кг;
– з 1 ліпеня па 30 верасьня – 4 кг;
– з 1 кастрычніка па 1 сьнежня – 9 кг.

Мяса павінна быць здадзена на прыёмны пункт «Заготскот» у в.Слабодка.

На Крывіцкі малаказавод павінна быць здадзена 150 літраў МАЛАКА базіснай тлустасьці.

Разьмеркаваньне здачы малака па тэрмінах (у літрах): студзень – 3, люты – 6, сакавік – 6, красавік – 18, травень – 18, чэрвень – 24, ліпень – 24, жнівень – 18, верасень – 18, кастрычнік – 9, лістапад – 6.

ЯЕК па ўсталяванай норме неабходна здаць 50 штук. Па месяцах (у штуках): студзень, люты і сакавік – 5, красавік – 8, травень – 15, чэрвень і ліпень – 12, жнівень і верасень –7, касрычнік, лістапад і сьнежань – 3.

ВОЎНЫ АВЕЧАЙ неабходна здаць на бліжэйшы пункт «Заготживсырьё» 540 грамаў (270 гр. да 15 ліпеня і 270 гр. да 15 лістапада 1956 г.).

СЬВІНЫХ СКУРАЎ не ніжэй другога гатунку ад чатырох кг і вышэй неабходна здаць 1 (адну) штуку.

БУЛЬБЫ зь зямельнага надзелу памерам 53 соткі, пры норме 1 сотка – 4 кг, неабходна здаць на Будслаўскі сьпіртзавод 212 кіляграмаў. У тым ліку ў жніўні – 10, у верасьні – 84, у кастрычніку – 118.

«За невыполнение обязательства в указанные сроки Вы несете установленную законом ответственность», – не забываліся папярэджваць улады. Фармальна скаргі на няправільны збор паставак можна было падаваць на імя ўпаўнаважанага Міністэрства нарыхтовак СССР у дзесяцідзённы тэрмін з дня ўручэньня абавязацельства. Рашэньне раённага ўпаўнаважанага Міністэрства нарыхтовак грамадзянін мог абскардзіць у райвыканкам і таксама на працягу дзесяці дзён з дня ўручэньня рашэньня. Райвыканкам, калі знаходзіў скаргу абгрунтаванай, сваё рашэньне ўносіў на зацьвярджэньне ўпаўнаважанага Міністэрства нарыхтовак СССР па вобласьці, краі ці рэспубліцы, рашэньне якога было канчатковым.

Год 1956-ы. Прыёмна-разьліковая квітанцыя №07653 за 26 лютага па абавязацельстве №8723. Прынята ад Мацкевіча Івана 4 кілягрaмы сала сьвінога коштам 9 рублёў 36 капеек у залік сьвіных скураў (8 кг за 1953 і 8 кг за 1954 г.).

Квітанцыя №498163 на пастаўку дзяржаве яек (ад 10 траўня 1956 г.). Здатчык: Іван Мацкевіч. Здаў 11 (адзінаццаць) штук па цане 20 капеек за 1 (адну) штуку. Усяго: 2 рублі 20 капеек.

Квітанцыя №231873 на пастаўку дзяржаве яек (ад 10 траўня 1956 г.). Здатчык І.Мацкевіч. Здаў 26 штук яек курыных па цане 15 капеек за 1 (адну) штуку. Усяго атрымана: 3 рублі 90 капеек.

Заліковая квітанцыя ад 3 жніўня 1956 г. сьведчыць, што Іван Мацкевіч здаў 18 кіляграмаў ялавічыны ў залік сьвіных скураў (8 кг за 1953 г. і 8 кг за 1954-ы).


Здымак Дзяніса Раманюка

## СЁНЬНЯ

Сёньня на хутары Мацкевічаў ужо ніхто не жыве. Развальваецца старая хата, дагніваюць пад хатай калоды-пчальнікі, зробленыя, напэўна, у пачатку 20-га стагодзьдзя. Два асірацелыя вульлі стаяць у зьдзічэлым садзе... Людзі, якія тут некалі жылі, беларусы Мацкевічы, былі гаспадарамі грунтоўнымі ўжо хоць бы таму, што трымалі пчолаў. А пчаляр, як вядома, істота стабільная, не якое-небудзь перакаці-поле, асоба, можна сказаць, містычная...

... Сёньня хутар стаў маўзалеем. Навокал іншае жыцьцё, жыцьцё, у якім ужо новыя пакаленьні беларусаў атрымліваюць позвы ў суды, сплачваюць штрафы, працуюць на грамдазкіх работах... А ў лесе каля невялічкай вёскі Ракуці Мядзельскага раёну Менскай вобласьці малады вясковец швэдзкай бензапілой сярод белага дня ў нядзелю валіць лес на дровы. Магчыма, гэта ягоны бравароқ стаіць у маладым ляску каля самай чыгункі. Там ужо ўсё падрыхтавана, і хутка пойдзе пяршак. Праўда, хацелася б мёду, які дае сілы, а не адбірае.

## ПОСТФАКТУМ

Гэты матэрыял авярую:
– Міхалу Мацкевічу;
– Адаму Мацкевічу, сыну Міхала;
– Івану і Язэпу Мацкевічам, сынам Адама;
– Забэлі Мацкевіч;
– Еве і Станіславе Мацкевіч...
Няхай факты яшчэ раз нагадаюць пра нашае jus retorsionis*.

**Славамір Адамовіч**

*Жнівень 1998 году*

*jus retorsionis – права адплаты.



большасьць зь іх ведае Піліпа Пестрака, як славутага літаратара. Нават папраўлялі мяне. Маўляў, не ПястрАк, а ПЕстрак. Але ніхто не прыгадаў назваў ягоных твораў. Маладзейшыя прыгадвалі, што ў тым доме, дзе жыве Зьміцер Бартосік, жыў Пестрак, пра што сьведчыць чыгунная шыльда з калярытным профілем. Старэйшыя згадвалі, што, па расповядах, у Пестрака была манія перасьледу — напрыклад, знаёмы папросіць у яго пазычыць тры рублі, а ён аж падскоквае: «А хто табе сказаў, што ў мяне ёсьць грошы?» А назвы ягоных твораў усё адно ніхто не прыгадаў.

Выпытваць у сваіх знаёмых пра Пестрака мне прыйшло ў галаву, калі я пабачыў ягоны партрэт работы Ахрэмчыка, памылкова ўнесены ў пяты том «Гісторыі беларускага мастацтва», прысьвечаны творам з 41-га і да 60-х гадоў. Насамрэч гэтае палатно, поўная назва якога «Партрэт заслужанага дзеяча культуры БССР П.С.Пестрака», было напісанае нашмат пазьней, у 1968 годзе. Між тым, яго доўгі час уважалі за адзін з найлепшых твораў беларускага сацыялістычнага рэалізму, працяг «рэпінскіх» традыцыяў.

Менавіта тады, на мяжы 60-х і 70-х жанар партрэту беларускага савецкага літаратара ўвайшоў у сваю сілу. Гэтая тэндэнцыя знайшла нават сваю дэфініцыю — «манумэнтальны інтэлектуалізм». Ягоная канцэпцыя была нескладаная. Мастацтвазнаўца Зінгер, напрыклад, пісаў: «Калі асновай мастацкага строю многіх партрэтаў 30-50-х гадоў зьяўлялася кампазыцыя дзеяньня, то галоўным вобразным стрыжнем жывапісных партрэтаў 60-70-х становіцца кампазыцыя, якая перадае стан РОЗДУМУ». Гэта азначала, што калі беларускі пісьменьнік на палатне раней некуды крочыў па палях з кіем, то зараз ён мусіў адкідацца ў мяккім фатэлі й моршчыць лоб. Тут можна згадаць нізку партрэтаў работы Лісоўскага (Брыль, Семяжон, Гілевіч). Альбо партрэт Янкі Маўра, напісаны Замаем, дзе пісьменьнік, праўда, больш падобны на старога боцмана... Але чым болей узіраліся ў пустату пісьменьнікі, тым менш станавілася ў іхных партрэтах і «манумэнталізму», і «інтэлектуалізму». Імітацыя РОЗДУМУ пераўтварылася ў імітацыю партрэта.

Апагеем жанру можна назваць партрэт Уладзімера Карпава, напісаны Шаўчэнкам у 1979 годзе. Сядзіць чалавек за сталом. Бюст Талстога на заднім пляне «намякае» на тое, што перад намі літаратар. Варта параўнаць гэты партрэт з партрэтамі Глебкі ці Пестрака, напісанымі Ахрэмчыкам, каб пераканацца ў іх тыпалягічнай еднасьці. У іх няма... вачэй. Уся эвалюцыя партрэту беларускіх савецкіх пісьменьнікаў зьвялася да таго, каб схаваць іх вочы ад вачэй гледача...

А напачатку 80-х гэты жанр пакрысе растаў,



зьнік разам з тым пакаленьнем мастакоў, якія спачувалі сваім мадэлям...

С.Х.

# ПРЫСУД

## У закладніках ня толькі вядомы пісьменьнік Салман Рушдзі,




Працяг са старонкі 1

Салман Рушдзі быў гатовы на ўсё. Восем гадоў таму, у 1990-м, маючы 43 гады, ён падмацаваў сваё рашэньне прыняць іслам шляхам уралягічнай апэрацыі ў адной з лёнданскіх клінік.

У Алаха Рушдзі ня верыў, але думаў, што, пазбавіўшыся дробязі, верне сабе ранейшае — магчымасьць спакойна жыць, а перацярпеўшы адной, пазбавіцца ад рэальнасьці — штодзённае пагрозы сьмерці.

*«У імя Бога Літасьцівага, Міласэрнага. Адзіны Бог, да якога мы ўсе вернемся. Я хачу паведаміць бясстрашным мусульманам усяго сьвету, што аўтар кнігі, названай «Шайтанскія суры», напісанай, аддрукаванай і выпушчанай у сьвет у якасьці выкліку Ісламу, Прароку і Карану, роўна як і тыя выдаўцы, якія былі дасьведчаныя пра яе зьмест, прысуджаныя да сьмерці.*

*Я заклікаю ўсіх шчырых мусульманаў пакараць іх хутка, дзе б яны іх ні знайшлі, каб ніхто больш ня сьмеў абражаць прынцыпы Ісламу. Хто б ні быў пры гэтым забіты, будзе з Божай дапамогаю разглядацца як пакутнік.*

*Акрамя таго, кожны, хто мае доступ да аўтара кнігі, але ня мае сілы пакараць яго, павінен паведаміць пра яго людзям, каб яго можна было пакараць за ягоныя дзеяньні.*

*Блаславеньне Божае няхай будзе з вамі».*

**Рухалла Мусаві Хамэйні, духоўны лідэр Ірану**

Фэтву (пісьмова выкладзенае меркаваньне рэлігійнага аўтарытэту наконт пэўнага багаслоўскага пытаньня), якая, дарэчы, не абавязковая для выкананьня вернікамі, Хамэйні вынес у лютым 1989 году, угледзеўшы ў толькі што выпушчаным рамане Рушдзі недаравальнае блюзьнерства.

Сур'ёзнасьць ягоных намераў зараз жа пацьвердзіў іранскі рэлігійны фонд Хордала, які паабяцаў выплаціць за забойства Рушдзі два мільёны даляраў. За мінулыя дзевяць гадоў сума вырасла яшчэ на паўмільёна. Гэтыя грошы ляжаць у адным з эўрапейскіх банкаў, і кожны, незалежна ад рэлігійнай прыналежнасьці, хто возьме на сябе выкананьне прысуду, вынесенага ўжо нябожчыкам Хамэйні, абавязкова атрымае ўсю суму адразу з належнымі банкаўскімі працэнтамі. Гэткая воля памерлага.



*«Гэта ж такая куча грошай! Дзякуй тым, хто так упарта змагаецца з спакусай».*

**Салман Рушдзі**

У Рушдзі ўжо даўно няма дому. Ад яго сыйшла жонка. Ён зьмяняе па трыццаць кватэраў на год. Неяк за 20 дзён давялося пераяжджаць трынаццаць разоў. Супрацоўнікі Асобага аддзелу брытанскіх спэцслужбаў, якія ўсе гэтыя гады ахоўваюць яго, атрымаўшы любы, нават няспраўджаны сыгнал, не шкадуючы грошай падаткоўцаў — а гэта паўтара мільёны даляраў на год — цягаюць Рушдзі па ўсім сьвеце.

Ніводная авіякампанія на прозьвішча Рушдзі не прадае квіткоў. Ягоны прыезд у пэўную краіну робіцца праблемай для ўладаў. У Францыі, у цэнтры Парыжа, паліцыя перапыніла ўвесь рух толькі для таго, каб Рушдзі змог проста перайсьці вуліцу. У Вашынгтоне, куды пасьля году папярэдніх перамоваў Рушдзі прыляцеў на сустрэчу з прэзыдэнтам Клінтанам, у вокны ягонага гатэльнага нумару былі папярэдне ўстаўленыя браняваныя шыбы. У Капэнгагене, дзе Рушдзі ўручалі прэмію Эўрапейскага зьвязу ў галіне літаратуры, тэрміны цырымоніі некалькі разоў пераносіліся, бо контрразьведка гэтай краіны атрымала паведамленьне пра падрыхтаваны замах на пісьменьніка...

Частку ганарараў Рушдзі пералічвае на рахункі сваіх ахоўнікаў...

*«Кожны мае права ўхваляць або асуджаць Рушдзі...»*

**Кранід Любарскі, літаратар, праваабаронца**

У 1990 годзе, праз два месяцы пасьля замаху на францускага выдаўца «Сатанінскіх вершаў», у адной з парыскіх кнігарняў я шукаў гэты крамольны раман.

Нават не даслухаўшы просьбу, прадавец некуды раптоўна выйшаў. Усьлед яму я па-расейску вымацерыўся. Ён абярнуўся, падыйшоў да мяне й на ламанай ангельскай прашаптаў, што гэтая кніга даўно прададзеная.

— Вы з Расеі? — дыхаў ён мне ў твар.

— Ес, — адказаў я, з годнасьцю адхінуўшыся ад яго.

— Заўтра, — прашаптаў ён, — зайдзіце заўтра...

Раніцою ён увапхнуў мне ў рукі таўсьценную кнігу, шагліну ў абгортачнай паперы, і зноў некуды пайшоў.

— А грошы? — кажу я. — Колькі я павінен?

— Пра гэта не турбуйцеся, — неяк двухсэнсоўна адказаў ён.

... Лютаўскі вецер з мора гоніць па ўзьбярэжжы пыл і абрыўкі газэт. На вуліцах Баку ў дзень амаль пуста. Людна толькі на рынку і каля галоўнай бакінскай мячэці Тэзэ-Пір. Я падумаў быў, што каля мячэці палітычны мітынг, а тут палілі пудзіла Рушдзі. У той дзень, чатыры гады таму, на ангельскага пісьменьніка быў накладзены ісламскі праклён.

У ЗША тады ўжо былі ўзарваныя чатыры кнігарні, якія гандлявалі «Сатанінскімі вершамі». Забітыя італьянскі, францускі, нарвэскі і японскі перакладчыкі гэтай кнігі. Зробленыя замахі на выдаўцоў у Францыі і Італіі. У Брусэлі тэрарысты расстралялі муфтыя мясцовай мячэці, які асудзіў прысуд Хамэйні і абвясьціў контрфэтву...

Улетку 1990 году ў Мюнхене, у часопісе «Страна и мир», які рэдагаваў Кранід Любарскі, упершыню па-расейску быў апублікаваны разьдзел з раману Рушдзі. Праз нейкі час на адпачынку ў Інданэзіі Любарскі загінуў. Паведамлялася, што ён патануў, калі купаўся ў акіяне.

*«Горад дзяльцоў Джахілья. Племя называецца Шгярук.*

*У гэтым горадзе гандляр-які-стаў-прарокам Махунд стварае адну зь вялікіх сусьветных рэлігіяў; сёньня, у дзень свайго нараджэньня, ён перажывае крызыс. І вось нейкі голас шапоча яму на вуха: "Якую ідэю ты нясеш у себе? Ты-чалавек-ці-мыш?»*

**Салман Рушдзі, «Сатанінскія вершы», «Страна и мир», №4, 1990 г.**

... Астываюць вуліцы сьвятой Мэккі. Сапуць вярблюды ў цемры арабійскае ночы, шаркаюць чыесьці сандалі па цёплым яшчэ пяску, чутны шэпт каля студні Зэмзэм...

Апусьціўшы галаву, слухае Вялікі Прарок словы курэйшытаў.

— Ты адзін з нас, ты з племя нашага курэйш, — кажуць шаноўныя мэканцы, — Алах для нас, як і для цябе, Бог людзей, Найлітасьцівейшы і Міласэрны... Але ал-Лат, ал-Уза і Манат таксама



нашыя багіні... Яшчэ продкі нашыя называлі іх дачкамі Алаха.

— Ён — Алах адзіны, Алах вечны, — адказвае Махамэд. — Ён не нараджаў і ня быў народжаны, і няма нікога, роўнага Яму.

— Ты хочаш, каб мы падтрымалі цябе ў казанях тваіх? — спытваюць у Прарока славутыя курэйшыты. — Тады чаму ты ня йдзеш насустрач нам? ал-Лат, ал-Уза й Манат спаявядаюць многія. Тысячы пілігрымаў ідуць у іхныя бажніцы, пакідаючы там свае ахвяраваньні, ад якіх залежыць дабрабыт нашага племя. Калі ты згадаеш нашых багіняў, мы сядзем з табою побач.

— Гэта высакародныя птушкі, — задумліва прамовіў Махамэд, — і іхнае пасярэдніцтва сапраўды пажаданае... Але...

Больш нічога не сказаў Прарок і пайшоў да пасьлядоўнікаў сваіх у зьбянтэжанасьці. А курэйшыты прынялі адказ гэты як згоду зь імі.

Ня спаў Прарок тую ноч, бо зьявіўся да яго арханёл Джыбрыіл.

— Шайтан прынес на твой язык словы пра «высакародных птушак», — сказаў яму Джыбрыіл, — Алах адзіны. І няма боства, акрамя Яго...

А раніцою прарок прамовіў адкрыцьцё: «Ці бачылі вы ал-Лат, ал-Узу і яшчэ гэту трэцюю, іншую — Манат? Няўжо ў вас (дзеці) — мужчынскае плоці, а ў яго — жаночае? Вось жа гэткі падзел (дзяцей) быў бы несправядлівым. Яны (г.зн.

# ДЛЯ ЎСІХ

## але й кожны патэнцыйны чытач ягонага скандальнага рамана

боствы) — усяго толькі імёны, якімі называлі іх вы і вашыя бацькі, і Алах не паслаў наконт іх ніякага сьведчаньня. Яны кіруюцца толькі здагадкамі і тым, чаго прагнуць іхныя душы. Але ж да іх прыйшло накіраваньне на просты шлях ад іхнага Госпада».

Гэта не прыдумка. Гэтае крамольнае паданьне пацьвярджае галоўная крыніца зьвестак пра першапачатковы іслам ат-Табары (каля 839 — 923), спасылаючыся на так званыя шайтанскія суры раньніх пераказаў Карана. Пра гэты эпізод станаўленьня адзінабоства — асноўнага стаўпа ў мусульманскім веравызнаньні, які адбыўся ў 614 годзе, — згадваюць і ўсе вядомыя сучасныя ісламазнаўцы.

... У Рушдзі ўсё адбываецца так: раньнім ранкам над Ля-Маншам узрываецца самалёт, захоплены тэрарыстамі. Зь яго вывальваюцца два артысты Джыбрыйл Фарышта і Саладын Чамча. Падаючы, яны раптам засынаюць. У першага зьяўляецца над галавой німб, у другога вырасьлі рогі й капыты на валасатых нагах. Далей, у главе «Махунд», дзея пераносіцца ў Мэкку часоў Прарока Махамэда. У рамане Мэкка — Джахілья. Важакі паганскага племені курэйш — ш'ярукі. Махунд — сам Прарок.

Салман Рушдзі мадэрнізаваў міт, дамысьліў сытуацыю, па-мастацку выклаў «шайтанскі» эпізод, па-свойму распавёў усім аб Прароку, які сумняваецца, за што плаціць вялізную цану.

*«Мне падабаецца гэты пісьменьнік...»*

**Вардван Варжапэцян, літаратар, выдавец**

Армяна-габрэйскі весьнік «Ной» выходзіў накладам 999 асобнікаў. Гэта нейкая сымболіка. Яшчэ столькі копіяў у адно прыймо можа зрабіць памнажальны апарат. Цяпер «Ной» не выходзіць. Галоўны рэдактар весьніка Вардван Варжапэцян у апошнім нумары пералічваў усіх, хто ўсе гэтыя гады дапамагаў грашыма і парадамі, апублікаваў поўны сьпіс таго, што надрукаваў за шэсьць гадоў існаваньня выданьня, і сумна разьвітваўся з чытачамі. З рэдакцыйным калектывам разьвітацца не давялося — Варжапэцян рабіў часопіс сам.

— Няма грошай — першае, — тлумачыць ён мне, — другое — ужо цяжка і трэцяе — «Ной» усё, што мог, сказаў.

Два гады таму Вардван Варжапэцян апублікаваў у сваім весьніку Рушдзі. Знайшоў вартага перакладчыка, паабяцаў захоўваць таямніцу ягонага імя, старгаваўся на кошт — тысячу даляраў, ахвяраваных чытачамі, за максымальна магчымую колькасьць старонак — і надрукаваў цалкам першы разьдзел «Сатанінскіх вершаў». Ён называецца «Арханёл Джыбрыйл». Гэта якраз тое месца, дзе артысты ляцяць над Ля-Маншам і спаборнічаюць у сьпевах.

— А чаму менавіта гэты разьдзел?

— Таму што гэта пачатак, — Варжапэцян захінае далоняй вокладку таго самага чэрвеньскага двухгадовае даўніны нумару. — Я тады прапанаваў усім: давайце гэта зробім разам, давайце на тытульнай старонцы будучае кнігі надрукуем эмблемы ўсіх расейскіх выдавецтваў — «Прогресс», «Молодая гвардия», «Вагриус», «Терра»... усе адмовіліся...

— Спалохаліся?

— Добра, — не зьвяртае ён увагі на маё пытаньне. — Вы баіцеся, я таксама баюся, але, відаць,



менш за вас. Дайце тады грошай, і я ўсё зраблю сам. Не далі. У расейскім ПЭН-клюбе, якому паводле статуту належыць падтрымліваць гнаных пісьменьнікаў, — таксама нуль. Я напісаў ліст самому Рушдзі...

— А можна пачытаць? — перабіваю я.

Варжапэцян ідзе да сябе ў кабінэт. Там ён корпаецца, шукае чарнавік ліста да Рушдзі.

— Вардван, — крычу я, — а нейкая рэакцыя на вашую публікацыю была?

какая-нибудь реакция на вашу публикацию была?

*«Мой партнэр па бізнэсу — татарын...»*

**Канстанцін Тублін, суўладальнік выдавецкага дому «Лімбус Прэс»**

У пецярбурскае выдавецтва «Лімбус Прэс» па каналах міжнароднае пошты «Ды-Эйч-Эл» прыйшла пасылка. У кардоннай скрыні з зваротным адрасам нейкага выкладчыка з ЗША Уладзімера Вайля, расейскі пераклад «Сатанінскіх вершаў» Салмана Рушдзі.

— Гэта было вельмі дарэчы... — гендырэктар выдавецтва Канстанцін Тублін загадкава паглядзеў на мяне і, як героі Рушдзі, нешта ціхенька засьпяваў.

— Косьця, — кажу я, — давайце адзін аднаму даваряць...

— Давайце, — адказвае Тублін і працягвае фразу, перарваную песьняй, — ... таму што ў згодзе з адным вядомым ангельскім агенцтвам, якое валодае эксклюзыўнымі правамі на выданьне ўсіх твораў Рушдзі, былі агавораныя канкрэтныя тэрміны выхаду кнігі ў Расеі. Гэта павінна было здарыцца ў канцы гэтага траўня. А перакладчыца, зь якой першапачаткова вяліся перамовы, прасіла цэлы год на завяршэньне сваёй працы над раманам. Вайль праз Інтэрнэт даведаўся пра расейскае выданьне і прыслаў свой зусім неблагі варыянт перакладу.

— А што за агенцтва?

— Гэтага я сказаць не магу. Ёсьць пэўныя дамоўленасьці. Не, не магу...

«Лімбус Прэс» купіў правы на публікацыю рамана Рушдзі ў Расеі ў брытанскага агенцтва «Wylie Agency» ўсяго за 3000 даляраў плюс працэнт ад рэалізацыі кожнай кнігі.

Гэта няшмат. Але ўсе разумелі, што прадаць іыя ж «Сатанінскія вершы» будзе вельмі цяжка, таму Тублін яшчэ й падстрахаваўся, уключыўшы ў кантракт пункт пра магчымы перапродаж усяго пакету выдавецкіх правоў. Засьцярогі, дарэчы, былі небезпадстаўныя: ніводная піцерская кнігарня не дала папярэдняе згоды на рэалізацыю яшчэ ня выдадзенай кнігі.

Затое пасьля пераможнага паведамленьня ў газэтах пра доўгачаканае выданьне Рушдзі па-расейску, лідэры мусульманаў Расеі адразу сабралі нашумелую прэс-канфэрэнцыю, дзе недвухсэнсоўна вуснамі муфтыя Равіля Гайнугдына заявілі пра магчымую расправу над выдаўцамі й перакладчыкамі.

Тублін, які карыстаецца асабістым знаёмствам з кіраўніком службы ўласнае бясьпекі адной з камэрцыйных структураў Санкт-Пецярбургу, папрасіў прасачыць за тым, што штодзённа адбываецца вакол яго і супрацоўнікаў выдавецтва.

— Э, хлопцы, ды за вамі «наружка»! Ні на крок не адыходзіць.

— А хто?

— Гэта ўжо іншая праца.

Партнэр Тубліна па выдавецкім бізнэсе Рушан Насібулін пайшоў у мячэць. Муфтый Жафар Панчаеў кажа яму: «Не аднаго цябе клікаў. Дзе твой другі?» Прыехаў Тублін.

— Бачыш, барадатыя стаяць? Паглядзі іхныя вочы... — на ламанай расейскай кажа муфтый, — яны ня толькі цябе, і мяне таксама забіваць хочуць.

Потым зайшоў па-сяброўску ў «Лімбус» старшыня гарадзкога камітэту па друку Генадзь Лобаў: «Напэўна, ня трэба. Няма сэнсу ў гэтым».

Патэлефанаваў намесьнік пракурора Санкт-Пецярбурга: «Выклікае занепакоенасьць...»

Ва ўправе ФСБ па Санкт-Пецярбургу і Ленінградзкай вобласьці Тубліну й Насібуліну сказалі: «Вас мы, вядома, на нейкі час схаваем, хоць і бяз гэтага справаў хапае, але наўрад ці штосьці зможам зрабіць для працаўнікоў выдавецтва...»

Тады Тублін напісаў ліст Яўгену Прымакову — міністру замежных справаў, разьведчыку, усходазнаўцу. Прымакоў адказаў асабіста, маўляў, усё разумею, Рушдзі чытаў, фэтву зьняць немагчыма, нічым дапамагчы не магу, рэкамэндую адмовіцца ад публікацыі...

Амэрыканскі вэнчурны фонд «Vantage» — суўладальнік выдавецкага дому «Лімбус Прэс» — уклаў у гэты свой першы праект у Расеі два мільёны даляраў і валодае 40 працэнтамі акцыяў прадпрыемства. Па 30 — у Тубліна і Насібуліна. «Вам, напэўна, надакучыў супольны бізнэс», — сказалі партнэры з ЗША.

— Ад пачатку выданьне Рушдзі было некамэрцыйным прадпрыемствам, — кажа мне Тублін, — літаратурная праца. Пытаньне ў неабходнасьці выданьня гэтай кнігі.

— Пад пагрозай апынуўся ўвесь наш выдавецкі бізнэс... — Насібулін бярэ слухаўку і, здаецца, кажа ўжо ня мне, — раман усё адно тут калі-небудзь выдадуць...

Па піцерскім тэлебачаньні паказвалі сумесную прэс-канфэрэнцыю кіраўнікоў выдавецтва «Лімбус Прэс» і муфтыя паўночна-заходняга рэгіёну Расейскае Фэдэрацыі і краінаў Балтыі Жафара Панчаева.

— Мы паразумеліся, — сказаў муфтый.

— Мы вырашылі ўстрымацца ад публікацыі рамана, — сказаў Тублін.

Касэты з запісам гэтай прэс-канфэрэнцыі былі адразу адпраўленыя ў пасольствы Ірана і Саудаўскае Арабіі.

— Слухайце, Косьця, — кажу я, — мы ж дамовіліся даваряць адзін аднаму?



— Так, — Тублін уважліва глядзіць на мяне.

— А можа, усё гэта блеф? А? І не было ніякага перакладу? — я ўважліва гляджу на яго. — І вы ўсё гэта распачалі для рэкламы? А?

— Хадземце, — кажа мне Тублін.

У чысьцюткім багажніку ягонага «Вольва» кардонная скрыня. Ён адчыняе яе. Вецер гартае непаслухмяныя аркушы. Я чытаю верхні: «Салман Рушдзі. Сатанінскія вершы. Пераклад Уладзімера Вайля».

— Заўтра я гэта адпраўляю ў Амэрыку, — Тублін зачыняе багажнік.

*«Гэта не сюжэт для рамана. Гэта нешта больш неверагоднае, што я мог прыдумаць».*

**Салман Рушдзі**

***На здымках:***

*Кніга Салмана Рушдзі.*

*Муфтый паўночна-заходняга рэгіёну Расейскае фэдэрацыі і краінаў Балтыі Жафар Панчаеў.*

*Вардван Варжапэцян — галоўны рэдактар весьніка «Ной».*

*Салман Рушдзі.*

*Кіраўнікі выдавецкага дому «Лімбус Прэс» Канстанцін Тублін і Рушан Насібулін.*

**Дзьмітры Белавецкі**

**«Огонек»**

# Старонка празаічнага радка

Андрэй Аляксандраў

## ДУМКІ ПРА ДУМКІ

***

Думкі – гэта тыя маленькія пачварныя істоты, якія мітусяцца ў сутоньнях нашага розуму і ўвесь час нешта крычаць, гавораць і шапочуць. Хтосьці будзе цябе ўпэўніваць, што яны замінаюць жыць. На самой справе, яны замінаюць памерці.

***

Думкі ёсьць страшэнная рэчы. Вельмі страшна, калі іх няма. Яшчэ страшней – калі яны ёсьць. Людзі баяцца тых, у каго ёсьць думкі. Уладальнікі думак становяцца часткова, а калі-нікалі і цалкам непадпарадкавальнымі. Людзі баяцца тых, каго ня могуць падпарадкаваць сабе; тых, каго нельга павучаць, седзячы ва ўтульным фатэлі, і каму нельга сказаць: «Сынок...», прыхільна паляпваючы па плячы. Тыя, у каго няма думак, глядзяць на тых, у каго яны ёсьць, тымі самымі вачыма, якімі раб глядзіць на свабоднага чалавека, ці сабака – на свайго гаспадара. Хаця найчасьцей іхныя вочы наогул заплюшчаныя...

***

Валэндаюся па горадзе.

Насустрач ідзе дзяўчына з косамі, пафарбаванымі ў чырвоны колер. Цікава, які колер маюць думкі ў яе галаве?

***

Некаторыя лічаць, што мець уласныя думкі – недаравальнае нахабства. Асабліва ў маладым веку. Яны, напэўна, ня ведаюць, што быць маладым – ужо нахабства, прычым найвышэйшае. Ня ў кожнага хапае сьмеласьці быць маладым.

Некаторыя лічаць, што мець уласныя думкі безгустоўна. Хто падкажа ім, што адзінай прыкметай благога густу ёсьць абвяшчэньне сябе знаўцам вытанчанасьці й дакладнасьці і адмаўленьне ў гэтым праве іншым? Новая думка ня можа быць безгустоўнай.

Некаторыя лічаць, што наяўнасьць уласных думак вынікае з жаданьня ўзвысіць сябе над іншымі. Гэткія людзі не здаюцца й спрабуюць глядзець зьверху ўніз на тых, хто мае думкі. Толькі як можна, стоячы ў сутарэньні па калена ў брудзе, глядзець зьверху ўніз на таго, хто ўзьвіўся над шэрымі дахамі й кратае мяккае неба сваімі пальцамі?

Некаторыя наогул нічога ня лічаць. Акрамя грошай.

***

Адсутнасьць словаў зусім не азначае адсутнасьці думак, хаця часьцей за ўсё – праўда ці не? – бывае зусім наадварот: адсутнасьць думак не азначае адсутнасьці словаў.

***

Найвялікшае шчасьце – быць зразумелым. Самым незразумелым зьяўляецца адсутнасьць думак. Вось адкуль у нас столькі няшчасных людзей.

***

Паверхня чалавечай чарапной каробкі – вельмі гладкая. На ёй цяжка ўтрымацца кругленькім, тлусьценькім, адпаліраваным думачкам-падробкам, якія ня могуць доўга затрымацца ў мазгох і перакочваюцца ў больш спакойныя мясьціны.

Але сустракаюцца й дзікія, непаслухмяныя думкі, якія сваімі шурпатымі шчупальцамі ўпіваюцца ў розум і пачынаюць непадзельна валадарыць над ім. Ад іх немагчыма схавацца, адбіцца, зьбегчы, бразнуўшы дзьвярыма, як нельга схавацца, адбіцца й зьбегчы ад самога сябе, бо гэтыя думкі – і ёсьць ты. А ці знойдзеш ты чалавека, які мог бы пахваліцца тым, што выйшаў пераможцам у бітве з Самім Сабой?

***

Калі б я пісаў фантастычнае апавяданьне аб тым, што было насамрэч, я б вывеў упэўненай рукой: «Усё мае сэнс?»

Вось табе загадка: што мне напісаць, калі я складаю дакумэнтальную аповесьць аб тым, чаго ніколі не было? Калі знойдзеш адказ, дык спазнаеш самую сумную ідэю ў сьвеце.

***

Што б ты выбраў: вялікі, бяздумны, вар'яцкі сьвет ці маленькі сьвет вар'ятні, дзе думкі сядзяць па сьценах і глядзяць табе ў душу самотнымі вачыма горкай праўды?

***

Урэшце, думкі – зусім бескарысная рэч.

Аляксей Бацюкоў

## ДУМКІ

Пакажы мне, што ў цябе тут? Думкі? «Шлях да неўміручасьці ляжыць праз сьмерць».

Тваё? Цікава, але ідэя ня новая. Дарэмна ты пішаш кароткімі фразамі – твае думкі звонку здаюцца кароткімі сьсінелымі дохлымі чарвякамі на паперы.

«Усе жанчыны – кошкі». Само сабой. Аднойчы, калі быў маленькі, я бачыў, як адзін алкаш біў жанчыну нагой у твар. Яна сядзела на зямлі, п'яная, падбірала выпаўшыя з сумкі пустыя бутэлькі й крычала на яго, бо ён яе штурхануў. А ён, як па футбольным мячы – «хрась!» Побач былі людзі, але ніхто нічога не сказаў, зрэшты, ніхто й не глядзеў туды. Цікава, ці той алкаш ведаў, што ўсе жанчыны – кошкі?

Што ў цябе ёсьць яшчэ? «Бог прыходзіць да кожнага чалавека такім, якім той здольны яго прыняць. Хто яшчэ такі разнастайны?» Перадам твае словы сваёй дзяўчыне. Яна адкажа –чорт.

Сёньня ўвесь дзень бегаў, шукаў натхненьня паміж нятленным і наталеньнем. Ува што гэта ты тут запэцкаўся? Таксама думкі? Думаць ты, вядома, думай, але потым прыбяры за сабой. Усяго добрага.



Валадзей Болка

## РАЭБІЛІТАЦЫЯ

Прагульваўся я, у неба пазіраў, рукі, як звычайна, за сьпінаю... І тут нехта (сам апрануты цывільна) падыходзіць ды кажа:

– Рэабілітавалі цябе...

А мне як цемра вочы заслала пасьля тых словаў...

Як прачнуўся, адразу ж у думках лаяцца пачаў на тое, што ўсялякая брыда сьніцца. Дзе ж гэта я быў? Як быццам у турме. Жонка, мусіць, у сьне ізноў на якім-небудзь банкеце дэлікатэсамі частавалася. А мне – хоць бы раз які бутэрброд пакаштаваць...

Ляжаў, марыў... і раптам бачу: цела маё з ложка падымаецца і напрасткі да халадзільніка шкандыбае.

Адразу ж падумаў, што галава перастала «варыць». Але гляджу: галава мая ўжо ў халадзільнік залезла, а думкі на ложку валяюцца... (Нешта я ня тое сказаў: у тым сэнсе, што галаву я бачыў, а на прасьціне, дзе думкі павінны былі знаходзіцца, хоць бы цень які адбіваўся. Дык не, не было ж...)

Я ўжо ў паніку быў гатовы кінуцца, але ўспомніў словы мужыка ў цывільным адзеньні. Дык вось ад чаго мяне рэабілітавалі: ад цела, як аказалася. Вось як сон спраўдзіўся! Але калі добра падумаць, то так і лепей нават: есьці ня трэба, «патрэбу» спраўляць ня трэба... Хто б яшчэ дарогу ў Рай паказаў?

І, здэцца, толькі на імгненьне вочы заплюшчыў, каб уявіць сябе з анёламі каля Бога, а як павекі падняў, дык нада мной доктар стаяў і ў нос нешта сьмярдзючае тыцкаў.

Адыйшоў я крыху, а мне й кажуць:

– Што ж ты – паміраць сабраўся? Нічога – хутка ачуняеш, падкорміспся... Разгледзелі тваю апэляцыю. Адсядзеў сваё. Хопіць ужо. На волю пара...

А я з радасьці, што насамрэч з турмы вышаў, ізноў страціў прытомнасьць...

Тася Ўласьцёнак

## УТОПІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

(Гісторыя з пачаткам, але без працягу)

Беларусь. Х999 год. Горад. Раніца.

На вуліцах сталіцы пануе калектыўны пафігізм. Тут ёсьць толькі два колеры: шэры – для людзей, і брудна-блакітны – для міліцыянтаў. У паветры лунае дух маніякальна-дэпрэсіўнага настрою, пранізаны пахам мокрага асфальту. Людзі маўчаць, а калі размаўляюць, дык самі з сабой. Тут можна пачуць ангельскую, французскую ці мэксыканскую мову. На вуліцах няма ніводнай машыны. Усе каналізацыйныя люкі адчыненыя.

Беларусь. Х998год. Прэзыдэнцыя рэзыдэнта. Габінэт.

За сталом сядзіць малады мужчына ў капелюшы і чорных акулярах.

– Што мы будзем сёньня рабіць: займацца любоўю ці пісаць забароны? – запытваецца ў яго шаснаццацігадовая сакратарка.

– Ну, папішам забароны. Для народа, – разважліва адказвае ён.

Беларусь. Х998 год. Прэзыдэнцыя рэзыдэнта. Габінэт. Папера на стале.

Загад І.

Забараніць прывітаньні. Дазволена толькі развітвацца.

Загад IV.

Забараніць белы, жоўты і ружовы колеры.

Загад VI.

Забараніць раджаць дзяцей, якім менш за адзін год і тры месяцы.

Загад ХІ.

Забараніць пацалункі ў лоб.

Загад ІІ.

Забараніць усе знакі пунктуацыі, акрамя шматкроп'я.

Загад ІІІ.

Забараніць глядзець на сонца ці згадваць яго ў размовах.

Загад IX.

Забараніць называць жанчын людзьмі.

Загад VIII.

Забараніць усё, што лётае, асабліва птушак, пчолаў, мастакоў і летуценьнікаў.

Загад LII.

Забараніць кашляць, кульгаць і сачыняць чароўныя казкі.

Загад X.

Забараніць забараняць законы.

Беларусь. 1998 год. Мяжа. Па той яе бок.

Праз некалькі кілямэтраў ад мяжы яшчэ ёсьць лес. Там зараз жывуць людзі. Яны штовечар зьбіраюцца каля вогнішча, пяюць песьні, п'юць гарэлку і ядуць бульбу...

Удзень яны ходзяць па лесе моўчкі, паасобку. Удзень яны ня маюць галасоў. Удзень яны не адкідваюць ценяў. Удзень яны губляюць памяць...

Памежжа – гэта шкло люстэрка, людзі!..

Беларусь. Х99Х год. Зачынены комплекс Шпакі. Раніца.

Самы вялікі маёнтак. Дзьверы і вокны зачыненыя. Роўна а шостай гадзіне з дынамікаў, усталяваных паблізу супэрмоцных прайгравальнікаў, пачынае гучаць амэрыканскі гімн.

Ён прачынаецца. Як заўсёды. Але што гэта? Чаму вакно адчынена?!! Сонца!!!

... Ён ня бачыў сонца ўжо трыццаць гадоў. Ягоны зрок даўно не трывае яркага сьвятла... Ён асьлеп амаль імгненна...

Раптам – грукат у дзьверы. Ён ня бачыць, але адчувае: гэта ягоны сын.

Сапраўды, у пакоі зьявіўся малады, але ўжо пасівелы мужчына. Ён падышоў да ложка, на якім ляжаў стары і слабы, асьлеплы лысы Дзяяч.

– Гэта ты адчыніў вакно, сынок? – ледзь чутна запытваецца ён.

– Час надышоў, БАЦЬКА!

Беларусь. ХХХХ год. Тое самае месца. Камэнданцкая гадзіна.

На бальконе таго самага маёнтку стаіць УСЁ ТОЙ ЖА лысы, сьляпы і згорблены Дзяяч. Ён ужо ледзь трымаецца на нагах. У адной руцэ ў яго дзяржальна ад сьцяга, у другой – фотакартка Томі Лі Джонса. Ён моўчкі прыслухоўваецца да цішыні. І раптам пачынае крычаць з усяе моцы.

– Жыве Беларусь! Жыве Беларусь! – крычыць ён так, што сівыя валасы адклейваюцца ад лысіны. – Жыве Беларусь! Жыве!..

****

Ну што, бульбашы, адгукнёмся?

Алесь Шадрын

## ІНСАЛІТЫЧНАЯ ЗАМАЛЁЎКА «ВЫБУХ»

*(ад франц. insolite – нязвыклы)*

Я нарадзіўся нечакана, потым зьнянацку памёр; раўнавага паміж жыцьцём і сьмерцяй вылепіла маю алягічную постаць, якая цяпер, выпраменьваючы сюррэалістычнае рэчыва ўнутраных рухаў душы, мігціць перад вамі; склала мой наскрозь супярэчлівы вобраз, нібы дзеля зьдзеку зь сябе самога; спляла вянок залацісты накшталт кароны, жартуючы й гуляючы зь непадлеглымі розуму вышэйшымі субстанцыямі; упрыгожыла мёртвую ноч незразумела-таямнічымі фарбамі; аздобіла рухомы (быццам жывы) ды жвавы дзень люстраным праменьнем пякуча-пякельнага сьвятла; раніцу зь вечарам перамяшала ў шклянцы, зрабіўшы непаўторны, каляровы, чароўны кактэйль, варты толькі сутнасьці ўсяго існага, сумесь, роўную абрыўкам фраз, кінутых аднойчы сьмела ў твар бязьмежнаму абсягу, дзецьмі сарамяжліва-жоўтых пяскоў.

Раўнавага зрабіла боль – салодкім, а асалоду – балючаю, цень – сьветлым, а сьвятло – цьмяным, вялізнае – маленькім, а дробнае – буйным, пачатак – канцом, а фініш – стартам, сон – жыцьцёвым, а жыцьцё – сонным, рэчаіснасьць – абстрактнаю, а абстрактнасьць – сапраўднаю, аповесьць – вершаванаю, а верш – апавядальным! І я, дзіця, – недарэчнае стварэньне раўнавагі, тут, побач з вамі, паміж двума палярнымі абсалютамі, бо мяне не палохае вашая агідная прывабліва-кахана-замілавана-спакусьліва-чорна-бела-зграбна-сквапна-прагна-мёртва-гульліва-гучная пачварнасьць! Бярыце мяне ў палон! Маю душу, што бруіцца полымем прамяністага паветра; біцьцё сэрца, што сыходзіць крывёю, змучанае й скатаванае да немагчымага; мае атамы, што складаюць мяне як істоту й якія, няспынна рухаючыся, ажыцьцяўляюць загадзя ведамы плян хлусьліва-бязьлітасна-эгаістычнага абсалютнага духу! Бярыце, бярыце гэтае матэрыяльна-духовае шалупіньне й кідайце ў сьметнік бясконцага сусьвету! Я не хачу больш чуць гэтых страшэнных, затхлых гукаў цішыні, што напоўнілі маё цела жаласьлівым скавытаньнем! Я не магу больш бачыць абрысы –малюнкі здранцьвелага наваколля, сузіраючы штучнасьць існага! Я не жадаю больш адчуваць водару мураваных людзкімі зданямі будынкаў, якія ледзь-ледзь, трошкі, крыху, але відавочна дыхаюць ды варушацца, нібы жывыя істоты! Пакіньце, калі ласка, мой розум бяздоннай пустэчы, што прагне пакаштаваць мяне на смак! Пакіньце крыважэрнай рэчаіснасьці, што сапсавала прастору, забіла краявід родных мясьцінаў, зьнішчыла казку, у якую я непадробна верыў, быццам у наканаваньне, зробленае лёсам!

А цяпер? Гукі цішыні ўзмацняюцца, набліжаюцца незваротна, кранаючы й трушчачы той адзіны трывалы стрыжань, на якім трымаўся мой недасканалы арганізм. Я разумею, надышоў горкі час сумленнае споведзі, справаздачы па ўсіх няпэўнасьцях сьвету майго, час платы па рахунках. Яшчэ гадзіна, хвіліна, сэкунда – поўныя бязглуздага шкадаваньня й непадзельнага смутку і, урэшце, доўгачаканы канец!

Вось, бадай, і ўсё. Чуеце моцны гук, што раскалоў сьвет на дзьве няроўныя паловы? Гэта я... я выбухнуў, нашпігаваны атрутлівымі рэчывамі, я з галавы да ног начынены ўзрыванебясьпечнаю мітусьнёю, падобнаю да тратылу; выбухнуў, разьляцеўшыся на дробныя кавалачкі таго, што ў сукупнасьці толькі што было целам. Выбух... і мая душа, калыхаючыся, зьнікла ў яскрава-сініх нябёсах, сваім палымяным хвастом (як у камэты) нагадваючы пра маё назаўсёды згубленае існаваньне. Мой глузд распыліўся, прамільгнуўшы за цемраю далягляду; сэрца, разьдзёртае на безьліч шматкоў, растварылася ў неабсяжным акіяне, у блакітнай пашчы нябёсаў. Сусьвет праглынуў мяне, пражаваўшы, зьмешаваўшы са сьлінай, і пераварыў за імгненьне, ні кропелькі, ні дробязі, ніякіх рэштак не пакінуўшы будучыні!

Толькі адзіны міт,
стракатую мэлёдыю,
ціхамірны сон –
неверагодна-нікчэмнага існаваньня.

# КНІГІ ГЭТАГА ЛЕТА

## *Апытаньне на менскіх вуліцах*

**Маёй першай суразмоўцай была кабета, якая разам з шасьцігадовым хлопчыкам выходзіла зь Менскага катэдральнага касьцёлу. Кабета прызналася, што ўжо шмат часу яна дачыняецца да кніжак толькі тады, калі чытае сыну:**

***– Ну читаю, но не книжки ж, так – рассказы. «Малыш и Карлсон»... Книжку ему подарили в детском саду «Маленькое привидение», «Маленький водяной», ну и этого достаточно: она такая толстая...***

**Дзьве дзяўчыны каля Паштамту, якія чакалі адна – хлопца, другая – цягніка, падзяліліся сваімі літаратурнымі прыхільнасьцямі:**

***– Научную литературу – это книги по психологии, так как я учусь на психолога. Читаю все, что с этим связано, ничего другого.***

***– Что я читала? Я читала Достоевского «Идиот». И эту книгу, и еще что-то, я не помню, но вообще я люблю классику. Я отношу Достоевского к писателям, у которых тяжелая литература.***

**А вось малады спадар, які цікаваў за нашай размовай, на пытаньне аб летнім чытаньні адказаў наступнае:**

***– Нет, летом я отдыхаю от чтения, за исключением газет. Зимой хорошо читается. Но правда вот весной закончил читать «Хазарский словарь» Милорада Павича. Это из последних впечатлений. Преподаватель я.***

**Яшчэ адзін суразмоўца каля цэнтральнага Менскага паштамту:**

***– Перечитывал Ильфа-Петрова «12 стульев», техническую литературу – в плане саморазвития.***

**Далей я скіраваўся да сквэрыка каля вакзалу. Вось дзьве сяброўкі, якія разьмясьціліся на каленках у жалезнай скульптуры выкшталцонай лэдзі:**

***– Летом? Боже! Летом у меня диплом был летом. Я чытала толькі тое, што было патрэбна для маёй дыпломнай работы. Я эканаміст па спажывецкаму рынку...***

***– Летом? «Свободные новости». Какую-то статью очередную по поводу отъезда послов всяких... Из книжек – «Кремлёвские жены». Когда я читала эту книжку, я не относилась к этому как к правде.***

**Побач таксама сядзелі сяброўкі, але не маладыя, а ўжо вельмі сталага веку:**

***– Знаете что, я вам одно слово скажу и хватит – я корректор была – больше не надо спрашивать.***

**Што да другой бабулькі, дык яна не працавала прафэсійнай чытачкай і таму не падалася стомленай ад чытаньня:**

***– В настоящий момент читаю Марининой книжку. У меня все ее сочинения есть. Есть время, я же не молодая, поэтому читаю, и ожидаю, когда мне надо будет уехать на кладбище.***

**Два наргасаўцы выпуску дзесяцігадовае даўніны не пакрыўдзіліся на мяне за тое, што я адарваў іх ад размовы за пляшкай.**

***– Булгаков, «Мастер и Маргарита». Вы знаете, я считаю, что кроме этой книги больше нечего читать.***

**А вось словы наконт літаратурных адкрыцьцяў у жыцьці:**

***– «Сто лет одиночества»... Это было года два назад... Короткевич, почти все, что я читал. На белорусском, конечно. Я бэнэфовец, так что я читал все в оригинале.***

**На суседняй лаве сумаваў спадар неакрэсьленага веку. Я паспрабаваў высьветліць ягоныя інтарэсы ў беларускай літаратуры:**

***– Вы знаете, мы с семьей переехали буквально с полгода назад только в Минск, так что я сам россиянин, и белорусские авторы меня не интересовали и не интересуют.***

**Яшчэ адна самотная постаць у сквэры:**

***– Книгу я не читала, никакую, наверное. Газеты просматриваю по поводу, чтоб найти работу, я инвалид, пенсия маленькая...***

**На маім зваротным шляху кабета сярэдняга веку спалохалася мікрафону, але ўсё ж наважылася выказацца:**

***– Какую книгу? С детьми вместе «Карлсона» читала. Франсуазу Саган... Более серьезную литературу люблю. Мне очень нравится Куприн, Тургенев, люблю, конечно, русскую классику.***

**Тады я запытаўся, ці ведае яна беларускую літаратуру:**

***– Ну конечно. Во-первых, Янка Купала, стихи Адама Мицкевича, ну наших этих белорусских классиков.***

**У краме «Сергеев Пассаж», якая раней звалася «Тытунь», я перапыніў размову ахоўніка і прадаўшчыцы. Вось што яны сказалі пра сваё летняе чытаньне:**

***– Читал. Читал фантастику. Детектив. Журналы всякие.***

***– У меня любимая газета «Гастроном». Она очень вкусная, мягкая... К сожалению, я каждый день работаю, и у меня нету времени читать, а на работе нельзя, я же за прилавком.***

**А вось у гастраноме, які завецца «Узвышша», а папросту – «Пад гадзіньнікам», я спаткаў наведніка, які ня толькі чытае, але й піша. Гэта быў журналіст Павал Шарамет:**

***– Много читал – Довлатова почти весь трехтомник. Сейчас Стейнбека читаю – «Зима тревоги нашей». Из белорусских авторов ничего не читал. Времени очень мало, если честно, я сам просто пишу свою книгу.***

***

**Пастараюся пазьбегнуць уласных высноваў, акрамя адной.**

**Перачытваючы гэтыя запісы, я думаю пра тое, што ў іх няма ані знаку нашага часу. Дакладна такія адказы можна было пачуць і пяць, і дзесяць, і нават дваццаць гадоў таму. Але ж гэткая рэальнасьць. «Майстар і Маргарыта», Дастаеўскі, «Малыш і Карлсан»... І нічога, што б хоць неяк адлюстроўвала наш сёньняшні час. Зрэшты, больш слушна будзе сказаць так: гэта наш час так мала адрозьніваецца ад таго, што было пяць, дзесяць і нават дваццаць гадоў таму.**

**Севярын Квяткоўскі**



# У чаканьні дзявятага валу

## *Чытачоўскія занатоўкі*

Хто гэта прыдумаў, што сапраўдная літаратура ствараецца менавіта ў часы рэакцыі? Маўляў, чым большае беспрасьвецьце ў жыцьці, тым глыбейшыя літаратура й мастацтва. Калі ўзяць гэтую выснову за аксіёму, то сёньняшняя Беларусь павінна проста захлынацца ад новых літаратурных імёнаў і зьяваў кніжнага рынку. Але ж не захлынаецца.

Тое, што трапіла за апошні год у поле зроку, можна назваць падзеямі, але ня плыньню. «Сьцяна» Васіля Быкава, «Койданава» Адама Глёбуса, «Божая кароўка зь Пятай авэню» Уладзімера Арлова. Акрамя таго, што гэтыя кнігі выдадзеныя без удзелу дзяржавы, аб'ядноўвае іх яшчэ адна акалічнасьць. Іх немагчыма ўбачыць на паліцах менскіх кнігарняў, куды я звычайна заходжу ў пошуках новае кніжкі і дзе прагортваю пару-тройку сучасных выданьняў. А там...

Жывыя савецкія клясыкі ўсё ніяк не забудуцца на сваё партызанскае юнацтва. Саракагадовыя гарадзкія інтэлігенты працягваюць сумаваць па вёсцы. Праўда, цяпер часьцей сумуюць па хатцы за чарнобыльскім дротам. І, як заўжды, беларускамоўныя маёры міліцыі ловяць ня менш адукаваных блатароў. Як вам напрыклад такая цытата:

«— Ты, фраер, са мною не жартуй. Бронежылет не спасе.

— А ты сам-та хто?

— Беларускі філіял фірмы «Жыццё і смерць».

Хоць ты бяры любую такую кніжку й рабі чарговы спэктакаль для першай праграмы беларускага радыё. Мова не пацерпіць.

Дарэчы, дзіўны факт, але нават кнігі, выдадзеныя вольнымі ў выбары правапісу выдавецтвамі, не вылучаюцца сярод сваіх дзяржаўных сясьцёр «нехорошим» мяккім знакам. А я б за цаною не пастаяў. І, падазраю, не адзін я. А прыходзіцца зноў пакідаць кнігарню ні з чым.

І пачуцьцё няёмкасьці за, у чарговы раз, не аплочаныя беларускія словы не адпускае пры выхадзе з крамы. Пры гэтым мяне мала хвалюе факт, што мне ніколі ня прыйдзецца прачытаць што-небудзь з таго, чым стракацяць паліцы нашае сучаснае літаратуры. Але ж павінен быць Нехта, дзеля каго працуе гэтая машына.

Я нават паспрабаваў прыдумаць сабе гэтага дзівака. Мне ўявіўся сумны пяцідзесяцігадовы чытач у старым шэрым паліто, стаптаных чаравіках і заношаным барэце. Чытыч «па наканаваньню», які ўсе свае пяцьдзясят гадоў прысьвяціў чытаньню толькі беларускай і толькі савецкай літаратуры. Праўда, навошта ён гэта рабіў, мне не ўявілася. І я стаў высьвятляць факт ягонага існаваньня ў прадаўшчыцы Люды. Але Люда мяне расчаравала (ці, наадварот, супакоіла?). Загадкавага чытача не існуе. Як і пяць гадоў таму, школьнікі раскупляюць выданьні клясычных аўтараў і — на гістарычную тэматыку. Чытычы-нацыяналісты разьбіраюць рэдкія кніжкі нацыяналістаў-пісьменьнікаў. А тыя, хто элемэнтарна яшчэ не забыўся на беларускую абэцэду, ахвотна бяруць сэрыйныя выданьні перакладной заходняй літаратуры, якая зьяўляецца на паліцах усё радзей і радзей.

Апошнім разам я не пакінуў кнігарню з пустымі рукамі. Я набыў даволі мілы зборнік санэтаў Адама Міцкевіча, выпушчаны выдавецтвам «Полымя» ў кішэнным фармаце, на крэйдавай паперы й густоўна праілюстраваны. Факт, што ў нас яшчэ не развучыліся выдаваць прыгожыя кнігі, вядома, ня можа ня радаваць. Як і папулярнасьць клясыкаў у нашую пераходную эпоху. Але й зьнявервацца ў зьяўленьні сьвежай літаратуры ў часы рэакцыі, пра што я сказаў напачатку, таксама ня хочацца. Таму што новы чытач, якому ня ўсё роўна, што чытаць, як і ня ўсё роўна, на якой мове, ужо прыйшоў.

І мне ня трэба напружваць фантазію, каб яго ўявіць. За апошні год я меў аж некалькі нагодаў зь ім пазнаёміцца. Гэта й той чалавек штангісцкага целаскладу ў банальнай скуранцы, што аднойчы перахапіў у мяне ў шапіку апошні нумар часопіса «Крыніца». І сярэдняга веку інтэлігент, хутчэй за ўсё тэхнар, які неяк у мэтро па-расейску, ветліва папрасіў у мяне зірнуць сьвежую газэту. «Што у нас новенького в «Нашай Ніве?» І студэнты, зь якімі мяне час ад часу зводзіць маё валоданьне некалькімі гітарнымі акордамі. (Дарэчы, што цікава, у «фізыкаў» лірыка па-беларуску выклікае парою большы інтарэс, чым на факультэтах, так бы мовіць, нашага кантэксту.) Ёсьць адна рыса, якая аб'ядноўвае гэтых людзей — зацікаўлены погляд. Погляд чалавека, якому хочацца распавесьці што-небудзь такое, чаго ён яшчэ ніколі ў жыцьці ня чуў. Інакш кажучы, падарыць яму Новую літаратуру.

Адкуль яна возьмецца ў нашым спыненым на месцы жыцьці? Я думаю, з уменьня бачыць, разгледжваць у гэтым жыцьці падзеі й знаходзіць сюжэты — сутнасныя, а ня тыя, што ўсім намулялі вока. Ужо чым-чым, а сюжэтамі нашае жыцьцё багацее штодня.

Вось, напрыклад, здарылася гісторыя з адценьнем палітычнага дэтэктыву, на якую прагна накінуліся, напэўна, усе салідныя газэты краіны.

У самым цэнтры сталіцы, на пляцы паміж, як кажуць у народзе, «домам калхозьніка» й будучым ягоным «маўзалеем» 3 ліпеня адкрыўся новы помнік. Нулявы кілямэтар. Пачатак адліку да ўсіх нашых райцэнтраў і нянашых сталіц. Невысокая гранітная піраміда з бронзавымі картушамі па бакох. На адной з граняў —выява беларускае мапы з адыходзячымі ад яе стрэлкамі. Што цікава, стрэлкі паказваюць выключна на Ўсход. Каб, напэўна, было зразумела, у які Рым павінны весьці беларускія шляхі. Ля падножжа пірамідкі можна прачытаць, колькі там да Вільнюса, ці да Міёраў. Адным словам, рэч у гаспадарцы карысная. І стаяць бы ёй некранутай гадамі.

Але прастаяў Нулявы кілямэтар трохі болей за месяц. Пакуль аб яго не зачапіліся герастраты. «Група падагрэтай алькаголем моладзі», — як напісалі газэты. Ставячы сябе на іх месца, я зразумеў, што без імправізацыі тут не абышлося. Ну, а як яшчэ можна раскурочыць па частках гэтую канструкцыю амаль насупраць прэзыдэнцкіх вокнаў, пасьля загрузіць бронзу ў злоўленую таксоўку на вуліцы, дзе міліцыянтаў больш, чым электраслупоў, каб пасьля везьці багатую здабычу дахаты. А галоўнае —навошта? Ну не дзеля вандроўкі ж у Пішчалаўскі замак.

Якія там былі сапраўдныя матывы ды прычыны вандалізму — ад чэсных газэт не даб'есься. А з напалову праўды літаратурнага сюжэту ня зробіш. Таму дэтэктыўная гісторыя застаецца сюжэтам газэтным.

Але што цікава. Разам з гэтым у нашым жыцьці адбываюцца, на першы погляд, нашмат менш заўважныя й годныя ўвагі падзеі, пра якія салідныя газэты ня пішуць. У менскую электрычку сеў звычайны з выгляду дачнік, з тым толькі адрозьненьнем ад астатніх, што пачытаць у дарогу ён узяў нашаніўскую кніжку «Гарт». А ў Баранавічах, дзе нядаўна выйшаў культурніцкі альманах з назваю «Рыцар Свабоды», маладыя аматары роднага слова набілі морду мясцовым баркашоўцам. А ў Рэчыцкім коледжы апошні збор БПСМ быў прысьвечаны бічаваньню аднаго з вучняў, які амаль год мужна мыў падлогу роднае аўдыторыі сёньняшнім дзяржаўным сьцягам. І такіх негазэтных фактаў па ўсёй краіне штодня набіраецца ўсё больш і больш. За імі пры жаданьні ўжо можна разгледзець літаратурныя сюжэты новых кніг.

... З Нулявым кілямэтрам сёньня ўсё ў парадку. Яго зноў апранулі ў бронзу. Вось толькі адна дэталь так і не вярнулася. Герб «Капуста».

**Зьміцер Бартосік**

Людка Сільнова

# ПАРЭЧКАВЫ КУСТ



I.

Варыла чорныя парэчкі
Летнім вечарам
І ўспамінала дзіва-рэчку
Часу вечнага.

Яна прыносіць нам дарункі –
І зносіць разам.
Плывуць шчымлівыя малюнкі
Ў вадзе абразам.

Між хваляў высьлізнула рыбка –
І боўць у нетры!..
Рака – ці боская валізка?
Сыстэмны нерат?

II.

Рака мне падарыла вобраз
Найлепшы, блізкі –
Ляснога зьвера рух і голас,
Мядзьведзя ў Мінску.

Як плынь цячэ! Мяняе якасьць:
Сьвятлом і мёдам...
Я адчуваю гэту вадкасьць
Паўзком і лётам.

Па берагах той дзіўнай рэчкі –
Відаць звысоку! –
Растуць-цьвітуць кусты парэчак,
Як радасьць воку.

III.

Люблю я чорнае парэчкі
Таемны колер –
Даўнейшай магіі гнязьдзечка,
Загадка болю.

У гэтай кроплі чарнабокай
Галавакружна
Імклівы сьвет наліўся сокам,
Стаў пэўным, дужым.

Націсьнеш – яхантам, мадэльлю
(Скажыце вы мне!..)
Яго кранальная ідэя
Насустрач вымкне!

IV.

Калі цябе я ўспамінаю,
Мой зьвер любімы,
Твой вобраз зь ягад састаўляю,
Як дом з цаглінаў.

Ты, як Сусьвет з тых зор-малечаў,
Якім – мільёны,
Сабраны мной увесь з парэчак
Маленькіх, чорных.

Твой вобраз – ушыркі імкнецца,
Жыве, бунтуе!..
Але зьядналым застаецца,
Мяне ратуе.

V.

Яно паўстане нечакана
Паверх чарноцьця –
Найсаладзейшае каханьне,
Як зь пены – госьця.

Нібыта мітаў паўтарэньне
На ўзроўні місы –
Кіпіць і паўстае варэньне,
Імчыць за рысы!

................

У хвалях пурпуровай пены,
У тых узьвівах –
Я прадчуваю сьмерць сыстэмы
І сьмех шчасьлівых.

VI.

Сатканы з залацістых нітак
Зялёны вечар...
Стаіць ля кволае калыскі
Дачка-малеча.

Каля яе ружовых ножак –
Расьцісныць хутка! –
Дзьве-тры парэчкі асьцярожна
Прыму, ціхутка.

І зноў да місы павярнуся,
Да чараваньня...
«Варэньне? – ціха засьмяюся. –
Пітво каханьня!»

VII.

Я абярнула вядро ягад,
З куста сабраных, –
І нечакана зьнікла радасьць
Як рай абраных.

Яны скаціліся з пагорку
У травы, рэчку,
Аб чым вяла-пляла гаворку, –
Мае парэчкі!

І далягляд убок хіснуўся.
І сонца зьмеркла.
Сабака ў брэху захліпнуўся.
Няпэўнасьць... Пекла...

VIII.

Ня веру я. Не пакідаеш
Мяне ты, любы, –
А разам з водамі сплываеш
Далей, да згубы.

І цёмны дождж, нібыта вэлюм
Бяды і млосьці,
Хістаюць ветрыку павевы.
Як на пагосьце...

Ізноў адна я ў тым пакоі,
Што ад Стварэньня.
Я выберу з усіх напояў
Мой чай з варэньнем.

IX.

У пошуках якіх гармоній,
Як за парэчы,
Я... ухапілася рукою
За куст парэчак?

Яго сакральная будова –
Успых ці выбух –
Яднае гронкі цёмных словаў,
Сьвятлом налітых.

Ва ўсім хачу я разабрацца,
Ня зьесьці толькі.
Шкада, да неба не дабрацца
Галінам тонкім.



Рэй Брэдбэры

# НІЧОГА НОВАГА, АЛЬБО ШТО ЗАБІЛА САБАКУ?



Гэта быў дзень бойняў, катаклізмаў, тарнада, землятрусаў, зацьменьняў, масавых забойстваў, вывяржэньняў вульканаў, разнастайных загубаў, у пік якіх сонца глытала зямлю і зьнікалі зоркі.

Калі падаць гэта ўсё проста – найпаважаны чалец сям'і Бэнтліяў узяў дый памёр.

Дог было ягонае імя, і быў ён догам.

У нядзелю Бэнтліі прачнуліся позна і на кухні знайшлі распластанага на падлозе Дога. Галава ягоная была павернутая да Мэкі, лапы акуратна складзеныя, хвасток не віхляўся, а быў нерухомы ўпершыню за дваццаць гадоў.

Дваццаць гадоў! Божа мой, думаў кожны, ці магло насамрэч гэта быць так доўга? І цяпер, без усялякага дазволу, Дог быў халодны – ён пакінуў сьвет.

Сузан, малодшая дачка, пабудзіла ўсіх рэзкім крыкам:

– Нешта ня тое з Догам. Хутчэй!

Не парупіўшыся надзець халата, у ніжняй бялізьне, Роджэр Бэнтлі кінуўся паглядзець на нерухомага зьвера, які ляжаў на кухні. Усьлед за мужам пайшла Рут, а за ёю – іхны дванаццацігадовы сын Скіп. Родні й Сал, якія жылі ўжо сваімі сем'ямі, павінны былі прыбыць пазьней. І кожны па чарзе мусіў сказаць адно й тое ж: «Не! Дог – назаўсёды».

Дог нічога не казаў, ляжаў, як Другая сусьветная вайна, кагадзе завершаная, ляжаў, як спусташэньне.

Сьлёзы залівалі шчочкі Сузан, пасьля, салідарныя із сьлязьмі гаспадара, сьлёзы намачылі шчокі Рут Бэнтлі, і, нарэшце, калі ўсе патанулі, сьлёзы зьвіліся ў Скіпа.

Яны інстынктыўна рабілі кругі вакол Дога, станавіліся на каленкі на падлогу, каб дакрануцца да яго, быццам гэта магло яго ажывіць – а раптам сабака сядзе, усьміхнецца, забрэша ці папросіцца за дзьверы. Іхныя дотыкі нічога не зьмянілі, хіба што павялічылі аб'ём сьлёзаў.

Урэшце сямейнікі падняліся, моцна абнялі адно аднаго і, агаломшаныя, прыняліся за сьняданак, у часе якога прыбітая Рут Бэнтлі сказала: «Мы ня можам проста пакінуць яго тут».

Роджэр Бэнтлі акуратна падняў сабаку й перанес яго ў дварок –у цянёк каля сажалкі.

– Што робім далей?

– Я ня ведаю, – сказаў Роджэр Бэнтлі. – Гэта першая сьмерць у сям'і за ўвесь час.

Ён спыніўся і, цяжка дыхаючы, паматляў галавой:

– Я маю на ўвазе...

– Ты меў на ўвазе дакладна тое, што сказаў, – выціснула Рут Бэнтлі. – Калі Дог – не сям'я, значыць, ён – нішто. Божа мой, я люблю яго.

Выбухнулі новыя сьлёзы, і ў гэты момант Роджэр Бэнтлі ўзяў коўдру, каб накрыць Дога, аднак Сузан спыніла яго.

– Не, не. Я хачу бачыць яго. У мяне ня будзе магчымасьці бачыць яго зноў. Ён такі прыгожы. Ён такі – стары.

Яны перанесьлі свае сьняданкі ў дварок, чамусь адчуваючы, што ня могуць ня бачыць сабакі пад час яды.

Роджэр Бэнтлі патэлефанаваў старэйшым жанатым дзецям. Калі яны прыехалі – найперш Родні, якому дваццаць адзін, а пасьля старэйшая дачка Сал, ёй дваццаць чатыры, – усіх ахапіла новая хваля роспачы. Яны ціха сядзелі й глядзелі на адбітак Дога ў люстэрку.

– Якія вашыя пляны? – нарэшце папытаўся Родні.

– Я разумею, гэта дурнота, – сказаў Роджэр Бэнтлі пасьля паўзы. – Але ён усяго толькі сабака...

– Толькі!? – Адразу ж зарыдалі ўсе.

Роджэр змушаны быў адступіцца.

– Паглядзеце, ён варты Тадж Махала. І ён атрымае Могілкі Хатніх Улюбёнцаў у Бэрбанку.

– Могілкі Ўлюбёнцаў, – сказаў Родні, – што за глупства!

– Што ж тут неразумнага? – Твар Скіпа пачырванеў, а вусны задрыжэлі: – Дог, ну, Дог быў пэрлінай... надзвычай каштоўнай.

– Та-а-к, – дадала Сузан.

– Добра, даруйце мне. – Роджэр Бэнтлі павярнуўся, каб абвесьці позіркам сажалку, кустоўе й неба. – Я думаю, што можна выклікаць труппяроў.

– Трупяроў? – ускрыкнула Рут Бэнтлі.

– Трупы? – сказала Сузан. – Дог ня ёсьць трупам.

– Што ж ён тады? – спытаўся Скіп.

Усе ўтаропіліся ў сабаку.

– Ён, – выпаліла ўраз Сузан, – ён... ён – мая любоў.

Перад тым, як плач мусіў распачацца зноўку, Роджэр Бэнтлі ўзяў слухаўку, патэлефанаваў на Могілкі Ўлюбёнцаў.

– Дзьвесьце даляраў, – аб'явіў ён прысутным. –Някепска.

– Для Дога? – сказаў Скіп. – Мала!

– Вы сур'ёзна гэта ўсё? – спыталася Рут Бэнтлі.

– Але, – сказаў Роджэр. – Я сьмяяўся з падобных месцаў усё сваё жыцьцё. Аднак цяпер...

Ён на момант вытрымаў паўзу:

– Яны прыйдуць і забяруць Дога апоўдні. Цырымонія заўтра.

– Цырымонія! – фыркнуў Родні і, размахваючы рукамі, скіраваўся да сажалкі. – Вы ня змусіце мяне прысутнічаць!

Сямейства пагрозьліва зірнула на яго. Урэшце Родні павярнуўся й дазволіў сваім плячам распружыцца.

– А бадай мяне ліха, я буду!

– Дог бы ніколі табе не дараваў, калі б цябе не было, –уздыхнула Сузан і выцерла нос.

Роджэр Бэнтлі паўглядаўся ў сабаку, пасьля ў сямейнікаў і неба, заплюшчыў вочы і выразна прашаптаў:

– Божа мой! Ці разумееце вы, што гэта самае першае жахлівае здарэньне ў нашай сям'і? Ці ж былі мы калі хворыя, ці хадзілі ў шпіталь? Траплялі ў аўтамабільныя катастрофы?

Ён чакаў.

– Не, – сказалі ўсе.

– Гары яно гарам, – выдаў Скіп.

– Ні халеры вы ня бачыце – ні здарэньняў, ні хваробаў, ні шпіталёў!

– Можа, – насьмелілася Сузан і змушаная была спыніцца ды чакаць, бо ейны голас зламаўся. – Можа, Дог і памёр, толькі каб дамамагчы нам зразумець, якія шчасьлівыя мы людзі.

– Шчасьлівыя?! – Роджэр Бэнтлі расплюшчыў

*Праця́г на старонцы 14*

# ХУАН РАМОН ХІМЭНЭС



## ВЕРШНІК

Даль фіялкамі сагрэта!
Сьцежкай, вечарам прыспанай,
едзе вершнік – ён паэта...
Даль фіялкамі сагрэта!

Пахне мокрай асакою,
і прыносіць пошапт рэчкі
подых сьвежасьці й спакою...
Пахне мокрай асакою...

Едзе вершнік – ён паэта...
Даль фіялкамі сагрэта!

Сэрца падае ўтрапёна,
а нібыта самавіты
плюшч абвіў яго зялёна...
Сэрца падае ўтрапёна...

Едзе вершнік – ён паэта...
Даль фіялкамі сагрэта!

Ён залоціць думкай бераг...
Сонца робіцца ягонай
мрояй у хмурынах шэрых...
Ён залоціць думкай бераг...

Даль фіялкамі сагрэта!
Сьцежкай, вечарам прыспанай,
едзе вершнік – ён паэта...
Даль фіялкамі сагрэта!

## МЁРТВЫЯ ДРЭВЫ

Вазы ўжо адсюль далёка...
(Пра гэта казалі сасоньнік,
і вецер, і залатая поўня,
і рэха, і дым-бяссоньнік...)
Вазы адыходзяць у вечар
пад ценяў самотных сьпевы.
Журботна нясуць вазы,
нібыта нябожчыкаў, дрэвы.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў зьнямозе!

Пад позіркам першай зоркі
валы йдуць, мроячы лена,
брыдуць да цёплай стадолы,
дзе пахне й маці й сена.
Ідуць вазакі за вазамі,
стамляюць свой крок ахвочы,
і шост на плячы трымаюць,
і поўняць нябёсамі вочы.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў зьнямозе!

Ідуць па спакоі долу,
а мёртвыя дрэвы ў страху
пакідаюць сьлед голага сэрца
і сьлед зьвечарэлага паху.
І сьвежы анёл на старое
пасельбішча ніспадае,
і на неастылых лядах
магільніка дух пакідае.

Рыдаюць вазы па дарозе
да новай сялібы ў зьнямозе!

## АБЛОКІ

Нябёсаў сьнегапад – як ветах веснях дзён.
Аднойчы ўбачыў я лагодную даліну,
нібыта першы сьнег сваю прынёс даніну,
і гэты белы сон быў болей, чымся сон.

Пасланьнем да мяне ты вернесься ўздагон
з апошняй белізной, каб замаліць правіну.
Прачнуўся двойчы я для сумнага ўспаміну,
ці ў сьне, ці бессані з табою зводзіў кон.

Сьвятло твае душы блукае самапасам,
ад досьвітку твайго ўцякае мгла начная.
Разбуджаны, я не згублюся ў тлумаце.

Я большы за жыцьцё і адчуваю часам,
нібыта чорны цень мой сон перапыняе,
цень міндалю, які расчулена цьвіце.

* * *

Паўсюль залатыя стрэлы
у лета ўпіваюцца люта.
І сум растаў у паветры,
нібыта ў крыві атрута.
Ідуць сьвятло, краскі, крылы,
кудысьці іх кліча пакора.
О, сумнае разьвітаньне!
І сэрца ўцякае ў мора.
І сутаргі й сьлёзы, дзе вы,
куды вас вядзе дарога?
Усё ва ўсяго пытае.
Ніхто не адкажа нічога.

* * *

Салодкая стома долу,
і глухнуць вечара крокі,
чуваць з лугоў недалёкіх
пах сена такі адзінокі.
Сасонькі сьпяць казытліва,
пчала прыхавала джала,
неба над валатоўкай
пяшчотна-фіялкавым стала.
Ступаю за сьпевам сьледам,
спаткаў яго на сьцяжыне,
сьпеў плача, працяты часам,
ідзе ў сьлязах па ўспаміне.
Ня ведаю, ці па дзіцяці,
ці па вечарах, дзе аблокі
асеняцца, сьпеў галосіць.
Пах сена такі далёкі.

# НІЧОГА НОВАГА,

*Працяг са старонкі 13*

вочы і павярнуўся. – Так! Ты ведаеш, што мы...

– Генэрацыя навуковай фантастыкі, – прапанаваў Родні, неахайна запальваючы цыгарэту.

– Што?

– Ты захапляесься гэтым. Пад час тваіх школьных лекцыяў ці пад час абеду. Кансэрвавыя нажы? Навуковая фантастыка. Аўтамабілі. Радыё, тэлевізія, кіно. Усё! Навуковая фантастыка!

– Так, каб на мяне трасца, так ёсьць! – плакаў Роджэр Бэнтлі – Ня так даўна не было аўтамабіляў, кансэрвавых нажоў, тэлевізіі. Нехта павінен быў прыдумаць іх. Пачатак лекцыі. Нехта павінен быў пабудаваць гэта ўсё. Сярэдзіна лекцыі. Мроі навуковай фанстатыкі сталі навуковым фактам. Лекцыя скончаная!

– Сумняюся! – сказаў Родні.

Роджэр Бэнтлі мог толькі нахінуцца пад цяжарам сынавай іроніі, каб пагладзіць дарагога мёртвага зьвера.

– Выбачаюся. Дог пакусваў мяне. Не магу справіцца з сабой. Тысячы гадоў мы толькі й робім, што паміраем. Цяпер час мінуўся. Падсумаваньне: навуковая фантастыка.

– Хлусьня. – Сьмяяўся Родні. – Спыні гэтае вярзеньне, татуся.

– Вярзеньне? – Роджэр дакрануўся да сабакавай пысы. –Дакладна. А што наконт Лістэра, Пасто, Салка? Яны ненавідзелі сьмерць. Рабілі ўсё, каб зьвесьці яе. Уся навуковая фантастыка толькі вакол гэтага й была. Ненавідзець рэчы, якімі яны ёсьць, прагнуць зрабіць рэчы іншымі. Вярзеньне?!

– Старая гісторыя, тата.

– Старая? – Роджэр Бэнтлі затрымаў сына жахлівым паглядам. – Божа. Я нарадзіўся ў 1920 годзе, і, калі ў той час ты хацеў наведаць сваю сям'ю ў нядзелю, ты...

– Ішоў на могілкі? – сказаў Родні.

– Дакладна. Мой брат і мая сястра памерлі, калі мне было сем гадоў. Палова сям'і сышла! Скажэце мне, дарагія дзеці, як шмат вашых сяброў памерла, пакуль вы гадаваліся? У пачатковай школе? У вышэйшай?

Ён залучыў сям'ю ў свой пільны пагляд і чакаў.

– Ніхто, – нарэшце вымавіў Родні.

– Ніхто! Вы чуеце гэта? Ніхто! Бог мой. Шасьцёра маіх найлепшых сяброў памерлі, калі мне было дзесяць. Чакайце! Я толькі што згадаў!

Роджэр Бэнтлі паляцеў шукаць нешта ў сьпіжарні й дастаў на сьвет стары запіс 78-гадовае даўніны, зьдзімаючы зь яго пыл. Ён углядаўся ў надпіс.

– Нічога новага, альбо Што забіла сабаку?

Усе падышлі паглядзець на старую плітку.

– Слухай, колькі гэтаму гадоў?

– Я пушчаў гэта сто разоў, калі быў дваццацігадовым юнаком, – сказаў Роджэр.

– Нічога новага, альбо Што забіла сабаку? – Сал паглядзела бацьку ў твар.

– Гэта будзе гучаць на пахаваньні Дога, – сказаў ён.

– Ты гэта несур'ёзна? – паспадзявалася Рут Бэнтлі.

Зазьвінеў званок у дзьвярох.

– Відаць, гэта людзі з Могілак Хатніх Улюбёнцаў прыйшлі забраць Дога?

– Не! – загаласіла Сузан. – Ня так хутка!

Несьвядома сям'я сфармавала сьцяну паміж сабакам і гукам званка, што клікаў на той сьвет.

Пасьля яны плакалі. Яшчэ раз.

Дзіўным і цудоўным здарэньнем на хаўтурах стала тое, як шмат прыйшло людзей.

– Я ня ведала, што Дог меў так шмат сяброў, – гучна залівалася Сузан.

– Ён валацужыў па ўсім горадзе, – сказаў Родні.

– Гавары прыязна пра памерлага.

– Добра, але ж так было, халера. Інакш, чаму Біл Джонсан тут, і Герт Скал, і Джым, які жыве праз дарогу?

– Дог, – сказаў Роджэр Бэнтлі, – я так хачу, каб ты мог бачыць усё гэта!

– Ён жыве. – Вочы Сузан перапаўняліся сьлязьмі.

– Ён паўсюль.

– Добрая дарослая Сузан, – шаптаў Родні, – якая плача над тэлефоннымі даведнікамі...

– Заткніся! – крычэла Сузан.

– Цішэй. Абое.

І Роджэр Бэнтлі скрануўся, вочы долу, наперадзе маленькай труны, у якой ляжаў Дог. Галава на лапах, у скрыні не задарагой і не затаннай, акурат.

Роджэр Бэнтлі апусьціў сталёвую голку на чорную кружэлку, устаўленую ў размаляваны ў луску партатыўны фанограф. Голка скрыпнула й засычэла. Усе ўдзельнікі нахінуліся наперад.

– Ніякіх пахавальных сьпічаў, – сказаў хутка Роджэр. – Толькі гэта...

Як і дзень назад, голас расказваў гісторыю пра чалавека, які вярнуўся з вакацыяў, каб спытацца ў сябра пра здарэньні ў часе ягонай адсутнасьці.

Выглядала на тое, што нічога асаблівага не здарылася.

А, толькі адна рэч. Усім было цікава, што забіла сабаку.

Сабаку? – спытаўся адпускнік. – Мой сабака памёр?

Так, і, магчыма, гэта была гарэлая каніна.

Гарэлая каніна? – плакаў чалавек.

Так, сказаў ягоны інфармант, калі гарэла стайня,



* * *

*(... Вільготная чараціца ў квецені.*
*Х.Р.Х.)*

Душа вясёлых красак пад даждом
шаптала штосьці.
О, краскі жоўтыя на дахах — вочы чутак,
што, як бальзам салодкі, разліваюць
потых млосьці,
жыцьця майго ўпарадкаванага надзейны
смутак!
Пах, як цнатлівы голас той, што праціпае,
як бессэнсоўная ідылія, ці як паданьне
пад колер суму, хатак, што самоціць
мга лясная,
з блакітнымі вачыма, бо яны прачнулі
раньне...
О, пах, боль жоўтых красак, дзіва рэчаў
тых часінаў,
якім дажджы сваёй не шкадавалі ласкі.
А сэрца аж дасюль баліць ад успамінаў,
нібыта жоўтыя наскрозь яго прабілі
краскі...

## НОЧ

Спаць — як ступіць на мост настрою
ракі часін, дзе сьпіць імша.
А пад мастом, нібыта мроя,
Цячэ вада, цячэ душа.

**З гішпанскае мовы пераклаў Рыгор Барадулін**

**P.S.** Рыгор Барадулін перакладае Хуана Хімэнэса. Прадстаўляючы свае пераклады, зробленыя сёлета спэцыяльна для рыхтаванай намі «Анталёгіі паэтаў-набэлістаў», ён не хаваў захапленьня Хімэнэсавай паэзіяй.

Хімэнэс, які мкнуўся да аголенасьці, унівэрсальнасьці і бясконцасьці паэзіі, глыбінна ўражвае. Знакаміты гішпанец, разьвіваючы творчасьць, прыдумаў для сябе формулу – «эстэтычная этыка», гэта значыць: маральнасьць мастака – у бескампраміснай мастацкасьці. Заразом ён сфармуляваў правіла: «Калі табе далі сшытак у лінійку –пішы ўпоперак». Так, яшчэ на заранку жыцьця ў паэзіі, зарадзілася ў ім непрыхільнасьць да аб'еджданых дарог. І ўжо першыя ягоныя зборнікі распачалі фактычна «срэбны век» гішпанскае паэзіі.

Пасьля двух стагодзьдзяў рэдка ажыўлянага застою паэзія вярнулася на гішпанскую зямлю, увабраўшы ў сябе яе водары й фарбы. Хімэнэс прынёс сваімі творамі каляровае ўспрыманьне сьвету, дакладна адчутыя незраўнаныя гукі й пахі. Зачараваныя крытыкі прызнавалі: паводле ягоных кніжак можна ўкладаць каталёгі гішпанскіх птушак, зёлак і дрэваў. Ён ашаламляў музыкаю: мэлёдыі лініся з кнігі ў кнігу, здумлялі багацьцем і пры гэтым дыхалі блізу дзяцінаю беспасярэднасьцю. І не было канца ягонай імправізацыі. Яна карэнілася ў самой паэтавай натуры, у ягоным імкненьні расшчапіць сябе ў сьвеце.

Пазьней, у сталага Хімэнэса музыку пакрысе ўсё ж аддаліла паэзія думкі. Ён памкнуўся да свабоднае існасьцевае паэзіі, разважаючы пра повязі красы й сьмерці, творства і ўратаваньня душы. Сваё звышзаданьне, свае «адзінотныя высілкі» мастака Хімэнэс бачыў у тым, каб пераадолець усьведамленьне сьмерці, саму яе ідэю. Ён менаваў гэта «канечнаю патрэбай розуму».

Амэрыканскі дасьледнік Говард Янг зазначыў некалі, што ў паэзіі XX стагодзьдзя Хуана Хімэнэса можна параўнаць хіба толькі зь Ейтсам і Рыльке: як і гэныя два, гэты спавядаў рэлігію, у якой паэзія – адзіны абрад, а творчасьць – адзіная форма пакланеньня. Ужо пад час свае эміграцыі, якая пачалася ў 1936-м, вандруючы па Лацінскай Амэрыцы, Хімэнэс між іншага падкрэсьліваў у лекцыях пра мастацтва: «Паэзія не расслабляе. Слабасьць не ў душэўнай глыбіні, а ў паверхоўным глянцы, ня ў вытанчанасьці, а ў выкрутлівасьці. Мы слабыя, калі ў нас слабее паэзія жыцьця. Калі людзі хапаюцца за калы, гэта ўжо ня людзі, гэта калы. Дык будзьма ж даваряць нашай сапраўднай сіле».

**Юрась Бушлякоў**



# ФРАНСУА МАРЫЯК

## СМАРАГД

*Зноў цёплага сьвятла вярнулася пара.*
*Нарэшце ўладны я над схмаранай душой.*
*Павесялее ў пальцах вашых і смарагд,*
*Хоць нежывым яго ўважалі мы зімой.*
*Больш не люструе ён таемнаю вадой*
*Спануры позіркаў, якой пазбыўся я.*
*І бачысься ты мне сярод пакуты ўсёй,*
*О, горкая любоў апошняя мая,*
*Пяшчотнаю, як ноч, адно пяшчотай той.*

## ЦЕНЬ

*У дні, калі упал спыняў усё жыцьцё,*
*Калі жарліва сонца на зьнямоглых нівах*
*Да сэрца вінаграднік прыгортвала маўкліва,*
*У час, калі шыхты зьнясіленых касцоў*
*Гнялі траву крыжамі целаў нерухлівых,*
*Адным-адзін у тыя дні пякельля, пылу,*
*Наўпрост прад сном зямлі*
*прыгнечана-панылым,*
*Аглушаны цыкадаў незьлічоных*
*цвыркаценьнем,*
*Я прагнуў сэрца вашага, як прагнуў ценю.*

## РАЎНАДЗЕНСТВА

*Ссумнелая вясна цьміць свой агністы*
*ўсплёск.*
*Як рана, успамін зноў растуліўся ў целе.*
*Пашлі спачын зімы, спакой халоднай белі*
*З маркотным водарам схаваных горкіх*
*сьлёз,*
*О, ноч маіх дзьвюх рук самотных*
*на пасьцелі!*

**З французскае мовы пераклала Ніна Мацяш**



# АЛЬБО ШТО ЗАБІЛА САБАКУ?

стайню ахапіла вогнішча, сабака паеў абпаленай каніны і здох.

Стайня? – плакаў уладальнік сабакі. – Як туды патрапіў агонь?

Іскры ад дому разьляцеліся паўсюль, агонь перакінуўся на стайню, коні згарэлі, сабака паеў каніны й здох.

Іскры ад дому? – крычэў адпускнік. – Як?

У доме загарэліся фіранкі.

Фіранкі? Загарэліся?

Ад сьвечак, што былі ля труны.

Труны?

Пахавальнай труны вашай цёці, фіранкі загарэліся ад сьвечак, запалаў дом, іскры перакінуліся паўсюль, згарэла стайня, сабака паеў гарэлай каніны...

Вынік: нічога новага, альбо што забіла сабаку!

Кружэлка дашыпела й спынілася.

У цішыні здарыўся быў маленькі бясшумны рагаток, нягледзячы нат на тое, што гісторыя была пра памерлых людзей ды сабак.

– Цяпер, ці атрымалі вы ўрок цяпер? – сказаў Родні.

– Не, павучэньне.

Роджэр Бэнтлі паклаў свае рукі на катэдру:

– Ня ведаю, мы тут для Дога ці для саміх сябе. Я думаю, усё разам. Мы – людзі, у якіх нічога-ніколі не здаралася. Сёньня ўпершыню. Гэта ня значыць, што я хачу раптоўнай загубы ці хваробы. Барані Бог. Сьмерць, прыходзь павольна, калі ласка.

Ён круціў кружэлку ў сваіх руках і стараўся чытаць словы.

– Нічога новага. Апроч таго, што цётчыны пахавальныя сьвечкі запальваюць фіранкі, іскры разьлятаюцца, сабака памірае. У нашых жыцьцях з дакладнасьцю наадварот. Нічога новага гадамі. Добрыя жыцьці, здаровыя сэрцы, удала праведзены час. У чым рэч?

Роджэр Бэнтлі кінуў пагляд на Родні, бо той зірнуў на гадзіньнік.

– Калі-небудзь мы павінны памерці, таксама, – Роджэр Бэнтлі сьпяшаўся, – цяжка паверыць. Мы разбэшчаныя. Але Сузан мела рацыю. Дог памёр, каб сказаць нам гэта, асьцярожна, і мы павінны верыць. І ў той жа самы час сьвяткаваць. Што?

Той факт, што мы былі пачаткам фантастычнай, ашаламляльнай гісторыі выжываньня. Мінаюць стагодзьдзі, і будзе толькі лепш. Вы можаце запярэчыць, што наступная вайна забярэ нас усіх. Магчыма.

Магу сказаць толькі, што я думаю: вы пастарэеце, будзеце вельмі старымі людзьмі. Празь дзевяноста гадоў бальшыня людзей будзе мець вылекаваныя сэрцы, дасьледаваную анкалёгію й больш працяглае жыцьцё. Шмат маркотаў зьнікне із сьвету, дзякуй Богу. Гэта будзе лёгка зрабіць? Не. Ці здолеем мы? Так. Не ва ўсіх краінах адразу. Але, урэшце, у бальшыні.

Як я сказаў учора, пяцьдзясят гадоў назад, калі ты хацеў наведаць сваіх цётак, дзядзькоў, бабулек і дзядулек, братоў ды сёстраў, ты йшоў на могілкі. Была адна тэма – сьмерць. Пара завяршаць, Родні?

Родні засьведчыў, што ёсьць яшчэ хвіліна.

Роджэр Бэнтлі скарыстаў яе:

– Зразумела, усё шчэ паміраюць дзеткі. Але ж не мільёны. Старыя? Уладзіць іх у Сонечным Горадзе замест мармуровага Садавінавага саду.

Бацька акінуў вокам сваю сям'ю ў храме, сям'ю з запаленымі вачыма.

– Божа, паглядзеце на сябе! Цяпер азірнецеся. Тысячагодзьдзі поўнага страху, абсалютнай трывогі. Як бацькам было заставацца ва ўласным розуме, выхоўваючы дзяцей, палова зь якіх памерла, халера мяне бяры. Нягледзячы на разьбітыя сэрцы, яны жылі. У той час, як мільёны паміралі ад грыпу ці чумы.

Мы жывем у іншым часе, дзе ўсё для нас спакойна. Але наўкола нас катастрофа: мы не заўважаем яе, бо мы перад ёй абароненыя.

Зараз я змоўкну, толькі адно слова Догу. Таму што мы любілі яго, мы зрабілі гэтую амаль дурную штуку, гэтую службу, але нам ані не шкада, што мы купілі яму дзялянку зямлі на могілках, і нам ня сорамна за тое, што мы казалі. Магчыма, мы ніколі ня прыйдзем адведаць яго, хто ведае? Аднак ён мае сваё месца. Сабака, стары хлопчык, дабраслаўляю цябе. Цяпер, усе, падзьмеце яму ў носік.

Кожны падзьмуў у носік мёртвага сабакі.

– Тата, – сказаў Родні раптам, – ці можна нам паслухаць запіс яшчэ раз?

– Але, – адрэагаваў Роджэр Бэнтлі, – гэта якраз тое, што я хацеў прапанаваць.

Ён апусьціў голку на кружэлку. Тая заграла.

Недзе тады, калі іскры з дому разьляцеліся, каб спаліць стайню, ахапіць агнём каніну і забіць сабаку, пачуўся гук пры ўваходзе.

Усе павярнуліся.

Незнаёмы чалавек стаяў у дзьвярох, трымаючы маленькі плецены кошык, зь якога вырываўся добра знаёмы лёгкі брэх сабакі.

Нават калі полымя ад сьвечак вакол труны кранулася фіранак, і апошнія іскры панёс вецер...

Уся сям'я, патопленая ў сонечным сьвятле, сабралася вакол незнаёмца з плеценым кошыкам, чакаючы Бацькі, каб той падышоў і адкінуў покрыва так, каб усе яны маглі апусьціць туды свае рукі.

Гэты момант, як пазьней сказала Сузан, быў падобны да яшчэ аднаго чытаньня тэлефоннага даведніка.

**З ангельскай пераклала Вольга Караткевіч**

## ПРЫВАТНЫЯ АБВЕСТКІ

*Шаноўныя прыватныя рэкламадаўцы!*

*Працягваючы друкаваць бясплатныя абвесткі, мы пачынаем таксама друкаваць абвесткі большым шрыфтам і ў афармленым выглядзе, але за невялікую плату:*

*— да 20 словаў — 40 000 руб., звыш 20 словаў — 60 000 руб.;*

*— па-мастацку афармленая аб'ява (мінімальны памер рэкламнага модулю 18 кв. см.) — 180 000 руб.*

*Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступныя рэквізіты рахунак: Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнесбанка» г.Мінска, код 763.*

*На зваротным баку бланку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛАМНЫЯ ПАСЛУГІ».*

*Калі дзейнасьць, якую вы рэкламуеце, падлягае ліцэнзаваньню, у абвестцы неабходна пазначыць нумар, дату выдачы і тэрмін дзеяньня ліцэнзіі, назву органа, які яе выдаў.*

*Друкуючы на старонках «НН» платныя абвесткі, вы спрыяеце выхаду газэты.*

*Рэдакцыя*



**Інстытут Гётэ**
**Таварыства дружбы з замежнымі краінамі**

7 верасьня 1998 году ў 18.30
творчая вечарына
ГУНТРАМА ФЭСПЭРА
*(Нямеччына)*
і АЛЕСЯ РАЗАНАВА
*(Беларусь)*
у Доме дружбы
*(вул. Захарава, 28).*

Запрашаем!

2 верасьня ў 17.00 у Менску каля помніка Янку Купалу адбудуцца апошнія ў гэтым годзе паэтычныя чытаньні СЛАВАМІРА АДАМОВІЧА пад дэвізам «СЬВЯТА СЭКСУАЛЬНАЙ БОЛЬШАСЬЦІ». У імпрэзе бярэ ўдзел мастак АЛЕСЬ ПУШКІН (малюе Вашыя партрэты). ЗАПРАШАЕМ!

Прапаную недорага: «Пан Тадэвуш» у перакладзе Я.Семяжона, «Старыя беларускія хронікі» У.Караткевіча, факсыміле Скарынавай Біблії ў 3-х тамах. Зьвяртацца на тэлефон «НН». Славамір

Zaprašajem lićvinaŭ da zhurtavańnia! Pryjdźcie da iściny, iścinaj viadomyja! Boh, Ajčyna, Nacyja! Čakajem vas, siabry! МНАТ «Lićviny», a/s 124, 246012, Homiel-12

Гурты «Уліс» і «Новае Неба» шукаюць бас-гітарыста (гітарыстку). Тэл: 2133495 Слава.

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Баханькоў А. і інш. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы / А.Баханькоў, І.Гайдукевіч, П.Шуба.** — Менск: Парадокс, 1998. — 414 с. — (Эрудыт) — Наклад 10 000 ас. ISBN 985-6092-44-2

**Міцкевіч А. Санэты — Sonety / Уклад., пераклад з польск. У.Мархеля, І.Багдановіч.** — Полымя, 1998. — 158 с. — Наклад 4 500 ас. ISBN 985-07-0240-0

**Крест — Красота церкви. Вып.4 / На расейскай, беларускай і ангельскай мовах.** — Менск: Четыре четверти, 1998. — 116 с.: іл. — (Наши духовные ценности) — Наклад 7 500 ас. ISBN 985-6089-28-X

*Рыхтуецца выданьне альбому Міхася Раманюка*

# «Беларускія народныя крыжы»

**Міхась Раманюк**



Беларускія народныя крыжы

Новая ілюстраваная манаграфія Міхася Раманюка была падрыхтаваная аўтарам яшчэ пры жыцьці. За 25 гадоў вандровак па ўсіх рэгіёнах Беларусі Міхась Раманюк сабраў мноства зьвестак пра непаўторныя асаблівасьці беларускага пахавальна-памінальнага абраду, зрабіў тысячы ўнікальных фотаздымкаў надмагільных і абракальных беларускіх крыжоў і магілаў, сабраў вусныя сьведчаньні старых людзей. На падставе гэтых дакумантаў зробленая поўная сыстэматызацыя й кляcыфікацыя ўсіх формаў і функцыяў крыжоў, месцаў іх устаноўкі па ўсёй Беларусі. Аналягаў гэткага выданьня няма ў нашых суседзяў, а ў Беларусі й ня будзе, бо носьбіты аўтэнтычнае традыцыі адыходзяць у нябыт, а большасьць прадстаўленых помнікаў страчана незваротна... Альбом зьмяшчае больш за 150 аўтарскіх здымкаў і замалёвак. Аб'ём 100 старонак, фармат 24х30 см. Мы зьвяртаемся да ўсіх, хто зацікаўлены ў пашырэньні традыцыйнае беларускае культуры, з просьбай паспрыяць выданьню кнігі. Бяз Вашае дапамогі выданьне будзе немагчымае.

Адрас для імянных чэкаў і пошты: *Ramaniuk Dzianis, a/d 2566, Vilnius, 2009, Lithuania.*





# САПРАЎДНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ НА САПРАЎДНАЙ МОВЕ!

## БЕЛАРУСКАЯ РЭДАКЦЫЯ ПОЛЬСКАГА РАДЫЁ

Беларуская Рэдакцыя (Служба) Польскага Радыё дзейнічае ў структурах праграмы для замежжа Польскага Грамадзкага Радыё, перадачы якога на розных мовах даходзяць да слухачоў ва ўсім сьвеце. Нашай задачай зьяўляецца распаўсюджваньне незалежнай аб'ектыўнай інфармацыі пра Польшчу й польскага пункту гледжаньня на падзеі ў сьвеце.

Перадачы Пятай Праграмы Польскага Радыё выходзяць штодзённа на 10 мовах (беларуская, польская, украінская, расейская, летувіская, ангельская, нямецкая, эспэранта, чэская, славацкая) на кароткіх і сярэдніх хвалях, па спадарожніку, пры дапамозе кабэльнай сувязі, наземных трансьляцыяў ды праз Інтэрнэт-аўдыё.

**ПУБЛІЦЫСТЫКА:**

Тыдзень у сьвеце 20.00 ндз, 6.00 пн;
Тыдзень у Польшчы 20.00 сб, 14.30 ндз;
Тыдзень у карэспандэнцыях з Горадні, Вільні, Віцебску 16.30, 20.00 ндз;
Ад панядзелку да нядзелі – інфармацыйны блёк 20.00 ндз;
Штодзённы камэнтар 6.00, 11.00, 20.00;
Рэзананс 20.00 ндз, 16.30 пн;
Акно – Беларусь у сьвеце 17.00 чац;
Скрыжаваньне думак (польска-беларускія дачыненьні) 20.00 сб, 11.00, 14.30 ндз;

**АКТУАЛІІ:**

Навіны 14.30*, 16.30, 17.00, 20.00;
Карэспандэнцыі зь Беларусі 6.00, 11.00, 16.30, 17.00, 20.00;
Агляды прэсы 14.30;
Польская прэса пра Беларусь 20.00;
Найцікавейшы сюжэт дня 20.00 пн*, 16.30;

**КУЛЬТУРА І ЛІТАРАТУРА:**

Беларуская эміграцыйная пісьмовасьць 20.00 ндз, 11.00, 16.30 пн;
Бабілёнская бібліятэка 16.30, 17.00 пн;
Агляд тыднёвіка «Ніва» 20.00 пн, 6.00, 14.30 аўт;
Агляд выданьняў «Часопіс» і «Пшэглёнд праваслаўны» 20.00 сер***, 11.00, 16.30 чац***;
Культурныя Актуаліі 20.00 сер, 6.00, 14.30 чац;
Гартаючы Культурныя Старонкі 20.00 сер, 6.00, 14.30 чац;
Беларуская эміграцыя пра нацыянальную мову 20.00 чац, 11.00, 16.30 пт;
Ад Бібліі да беларускай літаратуры 20.00 сб, 11.00, 16.30 ндз;
Жыцьцяпіс (літаратурная перадача) 16.30, 17.00 пт;
Погляд з партэру (тэатральная перадача) 16.30, 17.00 ндз;

**КАРЫСНАЕ, ЦІКАВАЕ, ЗАБАЎНАЕ:**

Усякая ўсячына 20.00 пн, 11.00, 14.30, 16.30 аўт;
Юрыспрудэнцыя 16.30, 17.00 аўт;
Эканоміка Польшчы 20.00 аўт, 11.00, 14.30 сер;
Інтарэс (эканамічны выпуск) 16.30 аўт;
Кроніка спорту 20.00 аўт, 6.00 сер;
Цівіркун (дзіцячая перадача) 20.00 сер, 11.00, 16.30 чац;
Навука і тэхніка 20.00 чац, 6.00, 14.30 пт;
Урок польскай мовы 20.00 пт, 6.00, 14.30 сб;
Сьмех ды й годзе (гумар) 20.00 пт, 11.00, 16.30 сб;
Рэдакцыйная пошта 16.30 сб, 6.00, 14.30 ндз;
Рэлігійная гутарка 6.00 ндз;

**МУЗЫКА:**

Канцэрт віншаваньняў 17.30 ндз, 6.00, 14.30 пн;
Музычны выпуск 11.00, 16.30 пн, 20.00 ндз;
Пра-рок (музычная праграма) 16.30, 17.00 сб.

Умоўныя азначэньні: * 6.00 – гадзіны перадачаў паводле менскага часу; ** пн – панядзелак, аўт – аўторак, сер – серада, чац – чацьвер, пт – пятніца, сб – субота, ндз – нядзеля; *** трэці тыдзень месяца; пры штодзённых перадачах дні тыдня не зазначаныя.

НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **14.30** | **41,18 м** | **50,04 м 7285 кГц** | **5995 кГц** |
| **16.30** | **41,27 м** | **49,22 м 7270 кГц** | **6095 кГц** |
| **20.00** | **41,78 м** | **48,00 м 7180 кГц** | **6250 кГц** |

ПА СПАДАРОЖНІКУ

**(EUTELSAT II F-6 Hot Bird)**

**6.00 11.00 17.00**

**13 градусаў усходняй даўжыні, адпаведная частата 11,474 Ггц; гарызантальная палярызацыя, нясучая гуку (аўдыё) 7,38 Мгц**

**НАШЫЯ АДРАСЫ:**

Праграма для замежжа 00-977 Варшава P.O. box 46 Польшча
Юрасю Корбану 210038 Віцебск 38 п/с 5 Беларусь
http://www.radio.com.pl/piatka
lobatiuk@radio.com.pl
ajny@radio.com.pl
(+4822) 645-93-67; 645-92-82 fax: (+4822) 645-59-17

БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ

Абвяшчаецца набор студэнтаў на дадатковае навучаньне з 1 кастрычніка 1998.
Спэцыялізацыі:
Філязофія / літаратура (прадугледжваецца спэцыялізацыя: пераклад літаратуры па сацыяльных навуках);
Найноўшая гісторыя;
Журналістыка.
Цыкль навучаньня - тры гады.

Прымаюцца студэнты старэйшых курсаў гуманітарных спэцыяльнасьцяў альбо асобы з вышэйшай адукацыяй па выніках сумоўя. Навучэнцы Калегіюму забясьпечваюцца навучальнымі і мэтадычнымі матэрыяламі.

Навучэнцамі адукацыйнай сыстэмы Калегіюму ў 1998 годзе могуць быць толькі асобы, якія стала альбо на час вучобы жывуць у Менску. Разгортваньне дыстанцыйнае сыстэмы навучаньня (для студэнтаў Калегіюму па-за Менскам) плянуецца распачаць з 1 чэрвеня 1999.

Навучаньне ў Беларускім Калегіюме - бясплатнае.

Дыплём Калегіюму не замяняе сэртыфікат вышэйшай адукацыі.

Лекцыі Калегіюму - адкрытыя. Асобы, якія не ёсьць студэнтамі Калегіюму, але сыстэматычна наведваюць лекцыі, рэгіструюцца як вольныя слухачы.

Навучальныя праграмы Калегіюму не дублююць праграмы дзяржаўных і недзяржаўных унівэрсытэтаў Беларусі.

Кірункі навучаньня па спэцыялізацыях ажыцьцяўляюць Цэнтар Эўрапейскага Супрацоўніцтва «ЭўроФорум» (філязофія / літаратура), Беларускі Гуманітарны Фонд «Наша Ніва» і Беларускі Інстытут Цэнтральна-Усходняй Эўропы (найноўшая гісторыя), Беларуская Асацыяцыя Журналістаў (журналістыка).

Запіс абітурыентаў - праз тэл. 256-36-13 з 10.00 да 17.00 штодня акрамя суботы і нядзелі.



«Наша Ніва» незалежная газэта заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Макет Віктар Корзун. Адрас для допісаў 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 4920. 8 палос фарматам А2 нумар падпісаны ў друк 23[30], 30.08.1998. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N5174

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г. выдадзеная Дзяржаўным камітэтам друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газеты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12